ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

10 САКАВІКА 1995 г. № 10 (3782) Кошт 200 руб.



# СТАРАЯ КАЗКА НА НОВЫ ЛАД

Люстэрка сучаснае палітыкі — старая казка. Распавядае, што здараецца, калі на адных дзеда з бабаю прыпадае цалюткая ўладарна-кіраўнічая вертыкаль... А калі ўсур'ёз, дык у спектаклі Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі "Дзед і жораў" ці не з кожным паказам выяўляюцца найсучасныя асацыяцыі ды паралелі. Відавочна, што магчымасці паставіць адметны націск не прамінаюць акцёры Валянціна Белаш і Аляксандр Казакоў...

Рэжысёр Аляксей Ляляўскі больш за дзесяць гадоў таму заахвочваў паразумецца на мінскай сцэне дзеда з жоравам. Сёння, падобна, даць рады з ягоным мастакоўскім правам на творчасць можа толькі казачны жораў. Рэальная палітыка аніяк не спрыяе. Але менавіта "Дзед і жораў" ужо ўразілі ладную частку еўразійскага кантыненту, цвёрда даводзячы сваю слушную справу да пераможнага фіналу. Яшчэ б пераканаць суайчыннікаў...

*Матэрыял, прысвечаны праблемам лялечнікаў, чытайце ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа"*

*Фота Віктара АМІНАВА*





# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***У мінулыя гады абвяшчэнне аб хуткім павышэнні цэн на нешта лічылася ледзь не дзяржаўнай здрадай. Урад трымаў у таямніцы сваё рашэнне да той хвіліны, калі зачынялася самая апошняя крама, і толькі тады абвяшчаў народу, што з заўтрашняга дня жыць стане яшчэ "весялей"... Зусім іншая справа — сёння. Апошнім часам пачала заўважацца іншая тэндэнцыя. За некалькі дзён да мажлівага павышэння цэн, скажам, на гарэлку, усе цэнтральныя газеты дружна паведамляюць пра задуму ўлад. Як гэта разумець? Ну, вядома ж, ніякая гэта не правакацыя з боку журналістаў і не проста так "развязваюцца" языкі ў дзяржаўных чыноўнікаў. Справа ў тым, што датэрміновае выдаванне некаторых сваіх "таямніц" становіцца выгадным дзяржаве. І будзе выгадным, пакуль мы, людзі з савецкім мінулым, будзем на яго "купляцца"...***

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка зрабіў двухдзённы візіт у сталіцу Бельгіі Брусель. У ходзе візіту падпісаны шэраг важных дакументаў, у тым ліку Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім Супольніцтвам і Беларуссю і некалькі двухбаковых дагавораў з Каралеўствам Бельгія. Падводзячы вынікі візіту, А.Лукашэнка сказаў, што ён паказаў магчымасць супрацоўнічаць "в интересах не только наших партнеров, но и наших государств и наших народов". Што ж, для нас даўно не дзіва тое, што інтарэсы "партнёраў" наш прэзідэнт ставіць вышэй за інтарэсы сваёй дзяржавы і свайго народа.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Народы і нацыі, у тым ліку і беларуская, выхаваныя за гады ў духоўнай Бастыліі і раптам выпушчаныя на волю, аказаліся няздольнымі існаваць вольна, будаваць жыццё на ўласны розум. Дэфіцыт энерганосьбітаў, вядома, важная справа, але, можа, яшчэ важнейшая — недахоп нацыянальнай волі, якая, дэфармаваўшыся ў таталітарнай сістэме, набыла выразны характар сервільнасці, духоўнага канфармізму. Нізкі ўзровень палітычнай свядомасці робіць лёгкім і простым уладаранне посткамуністычнай наменклатуры, што звыкла кіруе праз свае органы ўлады, кручкатворныя, антынародныя законы.

Задураны бальшавіцкай прапагандай народ яўна не ў стане зарыентавацца ў элементарнай сутнасці палітычных партый, своечасова ўбачыць сярод іх тыя, што створаны спецслужбамі ў інтарэсах суседняй дзяржавы ці для расколу ўласнага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Тым болей што ўсе яны надзелены прывабнымі праграмамі, маюць сучасныя найменні і даволі спрытна жангліруюць папулярным мячыкам "правоў чалавека". Наш электарат толькі цяпер пачынае разумець, што краіне ў якасці прэзідэнта патрэбны нацыянальны патрыёт, чалавек глыбока маральны. Іншы немінуча завядзе нацыю ў прорву".

*(З артыкула Васіля Быкава "Горкі смак перамогі", "Народная газета", 7 сакавіка г.г.)*

## ПАЛЯРЫЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

5 сакавіка пачаўся адзін з рашаючых этапаў перадвыбарчай кампаніі — вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. З гэтай нагоды кіраўнікі Партыі БНФ распаўсюдзілі заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "Улады і прарасійскія сілы зробяць усё магчымае, каб дэзінфармаваць і дэзарыентаваць выбаршчыкаў. Вылучаць шматлікіх кандыдатаў, якія будуць прывабліваць людзей псеўдадэмакратычнай дэмагогіяй і тым самым адбіраць галасы ў дэмакратычных сіл. У падобнай сітуацыі галоўнае — адзінства дэмакратычных партый краіны і вылучэнне толькі аднаго іх прадстаўніка па кожнай з выбарчых акруг". Але, на жаль, і гэтым разам аб'яднацца дэмакратычным сілам на Беларусі не ўдалося. І не апошняя прычына гэтага — якраз жорсткая пазіцыя, нежаданне "паступацца прынцыпамі" і ісці на кампрамісы самой Партыі БНФ. У дэмакратычны блок, на чале з БНФ, увайшло толькі пяць партый, якія ў мінулую суботу падпісалі ўзгоднены спіс сваіх кандыдатаў. Па адным з прадстаўнікоў гэтага блока будуць вылучаны ў 253 выбарчых акругах з 260. Ужо вядома, што Народны фронт выставіць сваіх альтэрнатыўных кандыдатаў у тых акругах, дзе будуць балатавацца Аляксандр Дабравольскі, Станіслаў Шушкевіч... Адзіны, каму БНФ не збіраецца выстаўляць альтэрнатывы, — Генадзь Карпенка. Выбары прэзідэнта, на жаль, нічому не навучылі нашых дэмакратаў.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

107 тысяч чалавек (2,2 працэнта ад эканамічна актыўнага насельніцтва) маюць цяпер на Беларусі афіцыйны статус беспрацоўнага. Лічба гэтая яўна не адпавядае сапраўднасці, але яна афіцыйная, і таму запомнім яе. Бо, па прагнозах сацыёлагаў і эканамістаў, у бліжэйшым часе чакае нас "абвал".

## ПУБЛІКАЦЫІ ТЫДНЯ

Дзве выдатныя публікацыі з'явіліся 7 сакавіка г.г. у "Народнай газеце" ў адказ на блюзнерска-цынічны артыкул дарадцы прэзідэнта Беларусі С. Посахава "Давайце навучым гарматы страляць маслам..." Аўтары іх — публіцыст С. Ваганаў і дэпутат Маларыцкага раённага Савета П. Клімук — каменя на камені не пакідаюць ад "ідэй", "прапаноў" і "меркаванняў" С. Посахава. Але каштоўнасць публікацый не столькі ў гэтым, колькі ў тым, што яны пацвярджаюць: на Беларусі і сапраўды "выспелі сотні тысяч людзей, гатовых да апошняга дыхання абараняць дзяржаўную незалежнасць Беларусі".

## "АБАЧЛІВАСЦЬ" ТЫДНЯ

4 сакавіка беларуская міліцыя ў трэці раз адзначыла сваё прафесійнае свята. Але ўласна беларускай міліцыя нашая становіцца, калі так можна сказаць, з аглядкай. Вось і дзень для свята выбралі быццам бы і "дэмакратычны" і разам з тым з "савецкай, рэвалюцыйнай" прывязкай. І сцяг узялі сабе хай і не чырвоны, але і не дзяржаўны, а — зялёны. Можна было б зразумець гэта не прыгадваючы аналагі, калі б не ведалі мы, як баяцца нашыя "вярхі" ўсяго нацыянальнага і спрадвечна беларускага.



З нагоды

# РАСІЯ — БЕЛАРУСЬ: АДЗІНАЯ КРЫМІНАЛЬНАЯ ПРАСТОРА

***Па сведчанні праваахоўных органаў Расійскай Федэрацыі, у гэтай краіне ці не кожны дзень нехта гіне ад рукі наёмнага забойцы. Ёсць попыт на такі від паслуг, ёсць сустрэчныя прапановы. Сёння заказное забойства ў РФ — рэч абсалютна звычайная. Як трапна сказаў адзін расійскі тэлежурналіст, у Расіі забойства з разраду трагедыі перайшло ў разрад статыстыкі.***

Людзі прызвычайваюцца да ўсяго, і ўсё ж забойства журналіста Уладзіслава Лісцьева ўскалыхнула Расію. Ды і не толькі Расію. Як сваю бяду ўспрынялі трагедыю ўсе, каму давялося бачыць Лісцьева на тэлеэкране. Гэта значыць, на ўсёй прасторы былога СССР.

Калегі Уладзіслава Лісцьева выказалі сваё абурэнне пануючым у расійскім грамадстве "беспределом" тым, што на працягу цэлага эфірнага дня прымусілі гледачоў тэлеканала "Астанкіна" глядзець у вочы забітага. Былі адменены ўсе запланаваныя раней перадачы, акрамя выпускаў навін.

На думку адных, забойства Лісцьева — сведчанне глыбіні маральнага падзення расійскага грамадства; іншыя спадзяюцца, што ўсведамленне трагедыі дапаможа Расіі стаць на шлях ачышчэння. Дай жа, як кажуць, Бог!

Але чамусьці не ідуць з галавы словы аднаго з удзельнікаў перадачы Беларускага тэлебачання, прысвечанай памяці Улада Лісцьева: "Масква слязам не верыць!" Дык вось і я не веру слязам Масквы. Я падлічыў: калі б за кожнага забітага ў Чачні "Останкино" маўчала б дваццаць мінут, то гэта маўчанне задоўжылася б на два гады". Можа, яно і занадта рэзка, але рацыя ў гэтым ёсць.

Шавіністычная тэндэнцыйнасць, спробы апраўдаць жорсткасць расійскіх войск у Чачні і выставіць на тэлеэкране перад светам чачэнскі народ як банду тэрарыстаў неяк не стасуюцца з той прынцыповасцю, якую прадэманстравалі журналісты "Останкино", так годна ўшанаваўшы памяць забітага калегі.

Цынічнае забойства вядомага не толькі ў Маскве і любімага не толькі расійскімі гледачамі тэлежурналіста прымушае нас, грамадзян сумежнай з Расіяй краіны, задумацца над балючым пытаннем: хто ў Расіі гаспадар? Тым болей, што наш прэзідэнт сп. Лукашэнка ўсур'ёз намерыўся "воссоединить" Беларусь з Расіяй...

Калі ў афіцыйным друку Беларусі альбо на нашым тэлеэкране з'яўляюцца паведамленні пра тое, што на тэрыторыі нашай краіны дзейнічаюць чачэнскія рэкеціры (рэкеціры-расійцы з РФ у Беларусі такой увагі з боку сродкаў масавай інфармацыі не маюць), я, зразумела, абураюся. Але першая думка: куды глядзяць урад і прэзідэнт; чаму на мяжы з Расіяй няма мяжы і візавага рэжыму? Можа, нам мала сваіх крымінальнікаў, каб яшчэ імпартаваць іх з Усходу?

Калі браць да ўвагі крымінальны аспект расійска-беларускіх стасункаў, дык мару Кебіча і Лукашэнкі аб "воссоединении" можна лічыць здзейсненай. Калі яшчэ будзе тая адзіная інфармацыйная, адзіная культурная, адзіная эканамічная прастора! А вось адзіная крымінальная прастора "Расія — Беларусь" ёсць ужо сёння. Адсутнасць цывілізаванай мяжы з Усходамператварае нашу краіну ў прахадны двор агульнаСНДэшны сметнік.

Калі сёння дэмакратычныя сілы Расіі не здольныя змагацца з мафіяй, якая аб'ядноўвае палітычныя вярхі і крымінальныя нізы; калі максімум, на што здатныя здаровыя сілы Расіі, дык толькі з горыччу канстатаваць чарговы віток гвалту, чарговую ступень "беспредела" — застаецца адно: скарыстаць усе нашы эканамічныя, палітычныя магчымасці, вайсковы патэнцыял, каб адмежавацца ад расійскіх разбора́к. Калі братэрства — гэта права "старэйшага" адчуваць сябе гаспадаром у краіне "малодшага" (гэта і расійскі рэкет на нашых дарогах, і палітычны ціск з Усходу на наш парламент і ўрад), дык не трэба ніякага братэрства. Мы — не браты, мы — суседзі. Усведамленне гэтай акалічнасці можа дапамагчы нам вырвацца з адзінай крымінальнай прасторы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# АЛЕ ПАКІНЬЦЕ КАНТРОЛЬ ЗА АБМЕНАМ...

ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

***Ужо месяц на Беларусі дзейнічае т.зв. 52-гі ўказ прэзідэнта. Ён устанаўлівае "парадак рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і павышэнне адказнасці за парушэнне заканадаўства ў сферы знешнеэканамічнай дзейнасці".***

***Ключавое слова ва ўказе — "валюта". Усё астатняе — проста набор фраз, які складаецца галоўным чынам з дзеясловаў загаднага ладу. Як вярнуць СКВ, што выслізгвае з казны, — вось якім клопатам былі прасякнуты распрацоўшчыкі.***

Змест самога дакумента каментаваць няма неабходнасці. Трэба толькі ўдакладніць, што ён суправаджаецца так званым "Палажэннем", якое тлумачыць асноўныя тэрміны і паняцці, што змяшчаюцца ва ўказе, а таксама ўводзіць новую бюракратычную форму, што называецца "пашпарт здзелкі".

Падрабязнасцей пра гэтае вынаходніцтва няма ніякіх, акрамя таго, што "пашпарт" складаецца ў чатырох экземплярах і завяршаецца прыкладна ў такой жа колькасці ведамстваў. Ці будуць створаны для "пашпарта" асобныя бланкі з некалькімі ступенямі абароны, ці будуць гэтыя бланкі строгай справаздачнасці — пакажа час.

Зусім магчыма, што з цягам часу "ліпавыя" пашпарты будуць карыстацца на Беларусі такой жа папулярнасцю, як некалі ў Расіі знакамітыя "чачэнскія авіза".

Большасцю экспертаў указ заклеймёны як антырынкавы, які душыць экспарцёраў і імпарцёраў і, у канчатковым выніку, вядзе да росту цэн. Гэта, калі быць дакладным, класічныя выдаткі дзяржаўнага рэгулявання знешняга гандлю і валютнага абароту.

Ці варта гаварыць, што ўсе гэтыя "антырынкавыя" меры былі прыдуманы свяцiламі беларускай эканамічнай думкі і цалкам адобраны нашым парламентам. Таму крытыкуючы заціск гандлю і абвінавачваючы аўтараў указа ў галавацяпстве і бюракратызме, трэба браць пад увагу прынцып САЛІДАРНАЙ адказнасці.

Увогуле ж спробы зарэгуляваць знешні гандаль не новыя. І ўжо, канечне, не ўяўляюць сабой выключна перажытак сацыялізму. Вось прыклад.

У 1968 годзе Францыя ўвяла вельмі суровы валютны кантроль. Ён быў народжаны сацыяльна-палітычным крызісам і грунтаваўся на чатырох прынцыпах: забарона стварэння авуараў за мяжой; кантроль за ўсімі вырашанымі аперацыямі; абавязацельства рэпатрыіраваць любое патрабаванне за мяжу і прадаваць адпаведную валюту ва ўстаноўленыя тэрміны; абмежаванне пазіцый французскіх банкаў.

Аперацыі прадпрыемстваў строга рэгламентаваліся ў адносінах рэпатрыяцыі экспартнай выручкі, куплі валюты для імпарту, пакрыцця валютных здзелак на тэрмін, фінансавання інвестыцый за мяжой. Расходы прыватных асоб за мяжой падлягалі строгаму абмежаванню, а для французаў, якія накіроўваліся за мяжу, была створана валютная кніжка.

Дэкрэты, якія стварылі сістэму валютнага кантролю ў Францыі, былі адменены канчаткова толькі праз 22 гады, да адкрыцця агульнаеўрапейскага рынку капіталаў у 1990 годзе.

Але што дазволена Юпітэру... Што тычыцца Беларусі, то ў нас эфектыўнасць валютнага кантролю залежыць у асноўным ад якасці інфармацыі, якой валодае адміністрацыя. Гэта перш за ўсё тычыцца гандлёвых плыняў і пакетаў абавязацельстваў і даўгоў. Такую інфармацыю можна атрымаць, калі абавязаць рэзідэнтаў праводзіць любую аперацыю з замежжам праз упаўнаважаных пасрэднікаў — скажам, блізкія да ўрада банкі абавязаны даваць падрабязную інфармацыю пра кліентаў у адміністрацыю або інспекцыю валютнага кантролю.

Аднак атрымаць інфармацыю па рэзервах будзе значна складаней, паколькі ўладальнікі авуараў заўсёды маюць магчымасць абысці ўмовы, якія дыктуюцца законам. Але і тут ёсць выйсце — грашовая прэмія за данос.

У сваіх каментарыях мы не раз гаварылі пра тыя схемы, якія ўжываюцца для барацьбы з валютным рэгуляваннем. Спыняцца на іх у чарговы раз не варта.

Можна толькі дадаць, што, акрамя Швейцарыі, вельмі паважліва ставяцца да тайны ўкладаў у Аўстрыі і, як ні дзіўна, у вельмі блізкай нам Латвіі. Але ў любым выпадку вам давядзецца дзейнічаць праз трэціх асоб і вы так альбо інакш прыйдзеце да ідэі стварэння ўласнай маленькай, але вельмі карыснай фірмы за мяжой.

Канчаючы гаворку, вернемся да асноўнай ідэі ўказа. Яна вельмі простая, але дзейсная. Іншымі словамі, як заўважыў у свой час прэзідэнт Рэйхсбанка Яльмар Шахт: "Вы можаце адняць у мяне ўсе паўнамоцтвы, але пакіньце кантроль за абменам". Кантроль за абменам — ідэя-фікс усіх урадаў, якія не жадаюць расставацца з жорсткай цэнтралізаванай эканомікай.

Вядома, сп. Багданкевіч яўна не сп. Шахт. Ды і працяг аналогій яўна не да месца. Але можна быць упэўненым, што яшчэ доўга наша дзяржава будзе спрабаваць прыбраць да рук валютныя сродкі грамадзян і прадпрыемстваў.

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

## "ЯК Я ДАЙШОЎ ДА ТАКОГА ЖЫЦЦЯ?"

**14 лютага свет адзначыў дзень св. Валянціны — абаронцы закаханых. Грыгарыянскі каляндар паказваў і на дзень святых Кірылы і Мяфодзія — апекуноў Еўропы. У вечар гэтага ж дня ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адбылося спатканне — тэатралізаваная сустрэча чытачоў з пісьменнікам Артурам Вольскім. Адкрылася яшчэ адна "Таямніца знічнага святла" — то была чарговая сустрэча абанементнага цыкла тэатра "Зніч". З ласкі галоўнай дзеючай асобы гэтае імпрэзы сп. Артура Вольскага, яна мела назву "Як я дайшоў да такога жыцця".**

**І сапраўды, як так сталася, што "Артур Вольский — поэт комсомольский" (жартаўлівая мянушка часоў юнацтва) апынуўся ў шэрагах БНФ "Адраджэнне"; аўтар цудоўных дзіцячых вершаў, якія маленькія беларусы вучаць у дзіцячых садках, здзейсніўся як творца глыбокай гістарычнай паэмы "Выгнанне Рагнеды"? Шмат што спрычынілася да такога пераўтварэння: і ўражанні дзяцінства, і роздум пра лёс блізкіх ды знаёмых, і голас сумлення...**

**І ўсё ж Артур Віталевіч застаецца ўлюбёным дзіцячым паэтам. Сп. Галіна Дзягілева, актрыса і мастацкі кіраўнік "Зніча", разыграла вельмі смешную сцэнку паводле верша "Дзедаў госць". Яе памочнікам на сцэне быў добраахвотнік з залы — дасціпны падлетак Алесь — вучань СШ N 191. Гучалі вершы розных гадоў. А асабліва цікаўныя прысутныя даведаліся, што любімыя жаночыя імёны сп. Артура — Ларыса ды Галіна; што не толькі ў публічных сумоўях, але і дома ў сям'і паэт размаўляе па-беларуску; даведаліся пра тое, што прыцягвае сп. Вольскага да БНФ "Адраджэнне".**

**У вечарыне ўзяў удзел і Эдуард Зарыцкі: сп. кампазітар паклаў на музыку вершы А.Вольскага. Актрыса ТЮГа Ларыса Горская аздобіла вечарыну сваімі спевамі. Атрымаў Артур Вольскі і "валянтынку" — цыдулку з прызнаннем у лепшых пачуццях. Далучаемся да яе і мы, жадаючы шаноўнаму творцу здароўя і натхнення.**

**Ганарар ад імпрэзы Артур Віталевіч ахвяраваў Дэмакратычнаму аб'яднанню ветэранаў.**

**Запрашаем чытачоў на чарговую імпрэзу з цыкла "Таямніцы знічнага святла". 29 сакавіка адбудзецца сустрэча з Вольгай Іпатавай. Сачыце за рэкламай.**

**І.З.**

## ФРОНТАЎЦЫ ГУРТУЮЦЬ

**Якраз напярэдадні сусветнага дня закаханых, з памінаннем пра іхняга апекуна св.Валянціна, у Магілёве ўтварыўся, абвясціў пра сябе ды адчыніўся арт-клуб "Зорка Венера". Ягонае першае пасяджэнне, што адбылося 11 лютага ў навучальным цэнтры ДК КШТ, было прымеркавана да знакамітага дня і прысвечана ўсім закаханым... Таксама — у мастацтва. Стваральнікі (фундатары) арт-клуба (клуба мастацтваў) сцвярджаюць, што падобнае месца для сустрэч творчай інтэлігенцыі проста абавязана было з'явіцца. Хоць калі...**

**Нарэшце з'явілася. Першую вечарыну распачыналі ды працягвалі спевы — рамансы, песенькі разам з эстраднымі танцамі ў стылі "Мадэрн-данс". Магілёўскае сузор'е святочных закаханых (або закаханых, якія не прамінулі адсвяткаваць сваё каханне) упрыгожылі Алег Жугжда (сцэнарыем, рэжысурай і канферансам), ансамбль танца пластычнай драмы "Вольны стыль" пад кіраўніцтвам Маргарыты Саенкі, старшыня магілёўскага бард-клуба Сяржук Кулягін... І яшчэ шмат хто... каб напрыканцы вечарыны гуртам з'есці велізарны торт у выглядзе сэрца (змоўчым тут пра сэрцы прыхільнікаў названых і не названых "зорак"). Фундатарам арт-клуба стала магілёўская філія БНФ ("У сэрцы любоў затаіўшы сваю"), а магілёўскі творчы небасхіл аж зззяе й свеціцца: "Зорка Венера ўзыйшла"!**

**"Глянь іншы раз на яе"?**

## ПАЧАЛІ З ВЫСТАВЫ

**У Доме кнігі, што знаходзіцца ў Мінску на праспекце Машэрава, прайшла чарговая штомесячная справаздачная выстава. Гэтым разам яна называецца ўжо "Беларуская кніга-95". Тыя, хто завітаў сюды, мелі магчымасць пазнаёміцца з выданнямі, якія з'явіліся ў студзені сёлетняга года. Пра іх расказаў, адкрываючы выстаўку, намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь С.Нічыпаровіч. Усяго ў рэспубліцы за месяц выдадзена 318 назваў кніг і брашур агульным накладам 4,8 мільёна асобнікаў. Па колькасці назваў у параўнанні са студзенем 1994 года кнігавыдавецкая галіна выглядае як быццам і нядрэнна. Рост па колькасці назваў склаў 116 адзінак, але ў той жа час агульны наклад паменшыўся ажно на 1 мільён асобнікаў.**

Пошта

# УСЁ ГЕНІЯЛЬНАЕ — ПРОСТАЕ,

## або ДАКУЛЬ МОЖА СЦІСКАЦЦА ШЧЫГРЫНАВАЯ СКУРА?

Божухна літасцівы: колькі з таго часу, як распачалася гістарычная перабудова, уцякло вады, пераломлена ваяўніча коп'яў, наламана дроў, там-сям нават пралілася кроў. А яму хоць бы што. Стаіць, як непахісны волат, як непрыступная скала, і толькі набірае сілу ды ўсё глыбей запускае карэнне. Імя яму, як здагадаўся чытач, яго вялікасць злавесны посткамуністычны крызіс...

Але праўду кажуць: усё геніяльнае простае. Варта было ўзабрацца на ўрадавы Алімп новай камандзе і з'явіцца прамой прэзідэнцкай кіраўнічай "вертыкалі", як усё перамянілася, загаманіла, загуло, прыйшло ў рух. Так, раздзяржаўленне і прыватызацыя цяпер ужо не карупцыя і не "прыхватызацыя", як і абяцалася, запрацавалі прадпрыемствы, пачаўся спыняцца спад вытворчасці, утаймоўвацца інфляцыя і г.д. А што датычыць рынку, то ён ва ўсе часы і эпохі жыў і працаваў. І ніхто на яго не замахваецца і сёння.

Той-сёй страшыць двухуладдзем: маўляў, дзве паралельныя ўлады на адным полі дзейнасці не ўжывуцца і "паб'юцца" паміж сабой. Але ж мы не адкрывацелі, не вынаходцы і не першапраходцы ў гэтай справе. Памятаеце, яшчэ генсек-рэфарматар адзіную, як маналіт, партыю падзяліў на дзве — гарадскую і сельскую. Тады было так: калі цябе стукнулі малатком — бяжы ў гарком, калі сярпом — хутчэй кроч у райком. І справы пайшлі ўгору. Толькі генсек-наватар не ўлічыў аднаго — вопыту свайго папярэдніка і не расправіўся са сваімі нядобразычліўцамі. Як і трэба было чакаць, рэформы былі патоплены, а іх ініцыятара і арганізатара дачасна адправілі на заслужаны адпачынак...

Гісторыя паўтараецца, але не заўсёды. Таму, калі прэзідэнцкая вертыкаль — тая лесвіца, па якой можна выбрацца з крызіснай ямы, то, калі ласка, няхай жыве на здароўе і ўмацоўваецца. Няхай фарміруецца моцная адзіная ўлада (без гэтага мы не можам), расшыраюцца яе структуры, узмацняецца кантроль, пільны ўлік. А размеркаванне і дапамога павінна аказвацца не пад адзін грабянец — усім сёстрам па завушніцах, — а адрасна, мэтава, індывідуальна, каб жыццёвы ўзровень не апускаўся ніжэй калена.

Хтосьці скажа: усё гэта ўжо праходзілі. І куды ў больш дасканалых формах. Напрыклад, ва ўмовах таталітарызму і адміністрацыйнага кіраўніцтва. А да чаго прыйшлі — агульнавядома.

Нічога тут незвычайнага. Ва ўсялякай справе знаходзяцца нядобразычліўцы — апазіцыянеры. Гэта бачна хоць бы на гісторыі генсека, які ўпамінаўся вышэй. На тое і апазіцыя, каб адмаўляць альтэрнатывіць, крытыкаваць, ганьбіць.

Канешне, у ажыццяўленні намечанай праграмы, ці, як цяпер яе называюць, часовых мер па выхадзе з крызісу, узнікнуць праблемы. Напрыклад, татальны ўлік і адраснае размеркаванне запатрабуюць дадатковай папярова-канцылярскай працы, якая за апошнія гады ўжо і так стала бясконцай. Але баяцца гэтага не трэба. Апаратчыкі, асабліва вышэйшага і сярэдняга ўладавых эшалонаў, яшчэ не страцілі густу да работы на халастым хаду, выхаванага каманднa-адміністрацыйным кіраўніцтвам. Як бачым, набыткі не прападаюць.

Ну, а калі вертыкальная машына забуксуе ці заклініцца, на тое ёсць надзейныя, як трапна выказаўся народны дэпутат Генадзь Карпенка, "лятучыя эскадроны". Чаго-чаго, а спецыялістаў па гэтых справах у нас заўсёды больш чым дастаткова. На недахоп іх і сёння не можа паскардзіцца ні прэзідэнт, ні Вярхоўны Савет, ні ўрад.

Можа раптам здарыцца, што не стане чаго ўлічваць і размяркоўваць (бюджэт, у якім расходы намнога вышэйшыя над даходамі, не гарантуе ад таго) — праблемы таксама няма. Калі не ленінская: рабуй нарабаванае, то няхай раскашэліцца наша наваяўленая буржуазія — банкіры, камерсанты, прадпрымальнікі, бізнесмены (на плошчах пратэсту дабрлты не валяюцца). Астаноўкі за назвай падатку не будзе. А немы іх крык, што яны і так па руках і нагах павязаны рознымі пабoрамі, — не прымаць пад увагу.

І гэта не ўсё. Ёсць яшчэ невычэрпная крыніца — вёска, ужо даўно прывыкшая да таго, каб яе абіралі і абдзіралі, узамен не даючы нават ламанага граша. Каб людзі не чулі, што пра гэта дэпутаты-аграрнікі гавораць у парламенце, асабліва ў "розным", адмянілі трансляцыю. І кропка. Гавораць, так распарадзіўся начальнік тэлерадыёкампаніі спадар Кісель.

Наогул, з прэсай, ці, як яе цяпер называюць, сродкамі масавай інфармацыі трэба разабрацца. Канешне, Гогалі нам патрэбны, але толькі такія, якія б нас "не трогали". Не нова? А хіба новае не тое старое, што ўжо добра забыта?

Той-сёй яшчэ спрабуе стварыць праблемы наконт дзяржаўнасці мовы. Быццам ад таго, як мы размаўляем — на "матчынай" ці "бацькавай" мове, — залежыць выхад з крызісу. Вось пабагацеем, тады і пабачым, якая гаворка нам найбольш падыходзіць.

А тое, што не па днях, а па гадзінах цэны танцуюць вальсы, а фінансы спяваюць рамансы, вінаваты нашы суседзі па СНД. Справы ў іх — дрэнь, вось усялякімі праўдамі і няпраўдамі і перакачваюць наша дабро ў свае засекі.

Без увагі, у становішчы пакрыўджанай Папялушкі застаецца адно — яе вялікасць пані Эканоміка. Адчуваючы сябе каралевай і ўсяму галавой, яна, пакрыўджаная, горка плача і, нібыта тая шчыгрынавая скура, усё сціскаецца і сціскаецца. І калі гэтаму прыйдзе канец — прадказаць ніхто не бярэцца.

**Яўхім ІВАНОВІЧ,**
**настаўнік, выдатнік народнай асветы, ветэран вайны і працы**

# ТРЭБА ЎСЁ Ж ВЕДАЦЬ...

Заўсёды ўважліва чытаю "ЛіМ". Не быў выключэннем і N 7 ад 17 лютага г.г. Два матэрыялы ў гэтай газеце ў мяне выклікалі засмучэнне.

У гады фашысцкай акупацыі Беларусі людзі ў сілу розных абставін па-рознаму вялі сябе. Барыс Рагуля ўзначаліў карны батальён у Навагрaдку, які ваяваў з беларускімі партызанамі. А яго знаёмыя па навагрaдскім педагагічным вучылішчы А.Карпюк і У.Калеснік ваявалі ў партызанскіх атрадах. Не на тым баку барыкад, што і Рагуля, ваявалі В.Быкаў, Я.Брыль і многія тысячы беларусаў.

Хто ж тады з іх памыляўся? Хто быў за беларускі народ?

Чытаем Г.Сурмач: "Што датычыць асобы Б.Рагулі, то, здаецца, тут даўно ўжо наспела пытанне аб тым, каб у рэшце рэшт вызначыць сапраўдную ролю тых беларусаў, якія найперш думалі ў час ваенных падзей пра лёс свайго народа, што апынуўся ў цэнтры змагання..." Далей ідзе гаворка, што Рагуля стварыў Незалежніцкую партыю, якая клапацілася аб беларускім народзе. Яе знішчылі гітлераўцы, як варожую ім. "Чаму ж тады пакінулі яе кіраўніка?" — ці падумала Г.Сурмач. У дадзеным выпадку паўстае пытанне, што Рагуля быў тым невадам, якім акупанты лавілі тых, хто сапраўды быў за Беларусь.

Паважаны Я.Лецка, як і Г.Сурмач, таксама дае індульгенцыю на невіноўнасць, даруе грахі Б.Рагулю. Але ж калі Сурмач не ведае, то Я.Лецка, як зямляк Рагулі, мусіць ведаць, што батальён Б.Рагулі прымаў самы актыўны ўдзел у карных аперацыях, якія праводзілі акупанты. Дзесяткі спаленых вёсак, тысячы расстраляных людзей у Навагрaдскім, Дзятлаўскім, Гарадзішчанскім, Любчанскім, Карэліцкім і Мірскім раёнах зроблены фашыстамі пры актыўным удзеле паліцыі і "вояў" Рагулі. Асабліва Рагуля і яго падначаленыя вызначаліся ў час блакады Налібоцкай пушчы ў ліпені-жніўні 1943 г., калі былі спалены вёскі таго ж раёна, адкуль і сам Лецка, — Панямонне, Каледзіная, хутары на Кромані і Маркавічы.

Я не ставіў сваёю мэтаю збіраць кампрамат на тых, хто быў на баку акупантаў. На гэта ёсць больш падрыхтаваныя людзі. Мне толькі да болю ў сэрцы непрыемна, што цяпер, калі мы рыхтуемся адзначыць 50-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, выдаюцца індульгенцыі тым, чыя дзейнасць шкодзіла дасягненню Перамогі, хто праліў шмат крыві тых, што набліжалі Перамогу.

Як піша Г.Сурмач, "...нельга адназначна кляйміць і аплёўваць людзей, якія таго не заслугоўваюць". З гэтым можна пагадзіцца. Толькі перш чым пісаць, трэба ведаць, каго "аплёўваць", а каго — не.

**Яўген КРАМКО,**
**былы намеснік камандзіра партызанскай брыгады "Камсамолец" па разведцы**

# АДНАВІЦЬ ГІСТАРЫЧНУЮ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

20 лютага ў Мінскім Епархіяльным Упраўленні адбыўся навуковы семінар "Паблемы аднаўлення гістарычнай справядлівасці і правоў жыхароў Беларусі, пацярпеўшых у перыяд палітычных рэпрэсій 1920—50-х гг.". У ім прынялі ўдзел вучоныя-гісторыкі, прадстаўнікі духавенства, грамадскасці, работнікі архіваў, праваахоўных органаў і інш. Асноўныя паведамленні зрабілі загадчык аддзела Камітэта па архівах і справаводстве, кандыдат гістарычных навук У.Адамушка ("Палітычныя рэпрэсіі 20—50-х гг. у Беларусі"), дацэнт Беларускага універсітэта культуры, кандыдат гістарычных навук І.Кузняцоў ("Аб праблемах даследавання рэпрэсій супраць жыхароў Беларусі ў 20—50 гг. і рэабілітацыі ахвяр тэрору"), рэферэнт Мінскага Епархіяльнага Упраўлення па пытаннях гісторыі святар Фёдар Крыванос ("Беларуская праваслаўная царква і рэпрэсіі 20—50 гг".). Даклады і іх абмеркаванне падкрэслілі актуальнасць пастаўленай праблемы. Ёсць пэўныя цяжкасці ў рэабілітацыйным працэсе, апрацоўцы архіўных матэрыялаў і дакументаў і складанні на іх аснове спісаў ахвяр рэпрэсій для занясення ў кнігі Памяці. З болем гаварылася пра тое, што ў Мінску да гэтага часу няма (апрача Курапатаў) помніка ці хаця б мемарыяльнага знака загінуўшым ад рэпрэсій, што грашовыя кампенсацыі, якія атрымліваюць ахвяры бальшавіцкага тэрору ці іх родныя, ва ўмовах інфляцыі нагадваюць хутчэй здзек, чым клопат дзяржавы пра сваіх пакрыўджаных грамадзян. У працэсе дыскусіі выявіліся і пэўныя разыходжанні ў методыцы падлікаў ахвяр рэпрэсій, ацэнцы тых ці іншых дакументальных або іншых сведчанняў, навуковых адкрыццяў, розныя падыходы да пытанняў выяўлення месца масавай загубы і пахаванняў ахвяр рэпрэсій. Тым не менш усе ўдзельнікі семінара былі адзінымі ў тым, што працэс аднаўлення гістарычнай справядлівасці ў дачыненні ахвяр палітычных рэпрэсій на Беларусі павінен стаць незваротным і разглядацца як пэўнага роду гарантыя непаўтарэння падобнай трагедыі.

Асвятленне тэмы палітычных рэпрэсій сродкамі масавай інфармацыі не павінна насіць характару кампаніі, а стаць пастаяннай. У навучальных установах трэба ўвесці спецкурсы па асвятленні гэтай праблемы.

Удзельнікі семінара выказаліся за паскарэнне рэабілітацыйнага працэсу ў краіне, яго ўдасканаленне (асабліва ў дачыненні матэрыяльнай і маральнай кампенсацыі), за неабходнасць цеснага ўзаемадзеяння і абмену інфармацыяй з іншымі краінамі СНД, у першую чаргу з Расіяй, што павінна быць замацавана дамоўленасцямі на міждзяржаўным узроўні. Выказана пажаданне аб'яднаць намаганні вучоных, духавенства, шырокай грамадскасці і ўлад у справе ўвекавечання памяці ахвяр рэпрэсій. Усе пагадзіліся з прапановай зрабіць семінар пастаянна дзеючым.

Перад прысутнымі выступіў і адказаў на пытанні старшыня парламенцкай камісіі па пытаннях рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій В.Піскароў. Завяршыўся семінар выступленнем Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі Філарэта, які благаславіў яго ўдзельнікаў на далейшую працу ў святой справе аднаўлення гістарычнай справядлівасці.

**Г.КІСЯЛЁЎ**

## "УРБАНІЯ" — ГЭТА СТЫЛЬ

**23 лютага ў Доме літаратара адбылася прэм'ера кнігі мініяцюр і вершаў у прозе беларускага пісьменніка з Санкт-Пецярбурга Анатоля Кірвеля, наладжаная Саюзам пісьменнікаў Беларусі, секцыяй прозы і Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

**Вечарына, якую вёў старшыня секцыі прозы Л. Левановіч, надзіва ўдалася, прайшла цікава, нетрадыцыйна. Нямала спрыяў гэтай нетрадыцыйнасці паэт А. Сыс; аднак варта заўважыць, што Анатоль апошнімі часамі з'яўляецца ці не своеасаблівай аздобаю такіх мерапрыемстваў, сваімі рэплікамі і неадэкватнымі паводзінамі — будзем шчырымі — часта не даючы слухачам проста заснуць. Як заўважыў адзін пісьменнік, шмат у чым дзякуючы Сысу на вечарыны ў ДЛ зноў пачалі прыходзіць людзі.**

**Добрымі, шчырымі словамі азваліся пра творчасць "замежнага беларуса" Л. Левановіч, Я. Лецка, Л. Дранько-Майсюк, А. Марачкін і іншыя. Паміж выступленнямі настрой прысутным падымаў сваімі іскрыстымі народнымі мелодыямі фальклорны гурт "Ліцвіны". Творы з кнігі "Урбанія" гучалі са сцэны як у аўтарскім выкананні, так і ў выкананні артыстаў мінскіх тэатраў. Асобна, прыгожа, з уручэннем кветак, павіншавалі пісьменніка першацветаўцы — як свайго даўняга і актыўнага аўтара. На вечарыне таксама прысутнічалі маці і мястра А. Кірвеля.**

**А. Ф.**

## ПАГУЛЯЙМА, ДЗЕТКІ

**Безумоўна, час не стаіць на месцы, таму і гульні ў нашых дзяцей часта зусім не тыя, якія былі ў нас, іх бацькоў, не кажучы ўжо пра больш далёкі час. Але несумненна адно: ніякі камп'ютэр не можа замяніць таго, што трымаецца на трывалай аснове народнай педагогікі, мае даўнюю традыцыю. У гэтым можна пераканацца, пазнаёміўшыся з кнігай "Дзіцячыя фальклорныя гульні", выпушчанай выдавецтвам "Народная асвета". Аўтары яе З. Леановіч і Н. Рылькова прыводзяць апісанні гульняў, што прыдуманы самім народам. Зборнік рэкамендуецца выхавальнікам, музычным кіраўнікам дашкольных устаноў, настаўнікам малодшых класаў. Ды і ў сям'і, думаецца, ён не будзе лішнім.**

## ПЕРШЫ КРОК... "КРОКУ..."

**Беларускі фонд культуры звярнуўся са зваротам "Дапамажыце нашым бібліятэкам" да інтэлігенцыі і прадпрымальнікаў краіны. У ім гаворыцца: "Вельмі хочацца, каб кожная наша бібліятэка з'яўлялася не толькі месцам, дзе можна атрымаць інфармацыю па любым пытанні, але і цэнтрам нацыянальнага Адраджэння". З'яўленне гэтага ліста невыпадковае. Апошнім часам у бібліятэк не хапае грошай, каб набыць неабходную літаратуру.**

**Што ж, будзем спадзявацца, што занепакоены голас БФК пачуюць тыя, хто і на самай справе можа дапамагчы. І вось першая прыемная навіна. Дабрачынную акцыю правяло мінскае выдавецтва "Крок наперад", якое ўзначальвае Мікалай Шкумаў. Яно падарыла бібліятэчкі 17 дзіцячым дамам Беларусі, а ў кожнай — па 80 кніг самай рознай літаратуры: гістарычнай, прыгодніцкай, навукова-пазнавальнай, мастацкай.**

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 2

**Часопіс пачаў новую рубрыку "Дзённікі". Адкрывае яе "Апошні сшытак" Я. Скрыгана, з якога яскрава бачна, наколькі шматгранным было жыццё аднаго з нашых выдатных пісьменнікаў нягледзячы на цяжкую, невылечную хваробу. У "Гасцёўні" вершамі прадстаўлены А. Салтук, апавяданнем "Васіль" — В. Шніп. Пра свой нялёгкі шлях прыгадвае ахвяра сталінізму М. Дудзейка ("Старонкі горкай долі"). Пытанні станаўлення таленту пісьменніка закранае ў артыкуле "Як збіраецца скарб..." Т. Шамякіна, А. Пашкевіч гутарыць з М. Чаргінцом — "Марам я не здрадзіў...". Як вядома ж, шырока прадстаўлены празаічныя і паэтычныя творы маладых аўтараў. Годна пачуваюць яны сябе і ў ролі крытыкаў.**

***Чалавецтва не можа быць без ідэалаў, і не таму, што яму даспадобы ідалапаклонства. Мабыць, пошукі абсалютнага ва ўсіх сферах нашага жыцця ёсць праява найвышэйшага стану духу, калі хочацца — яго геніяльнасці. Розныя формы гэтага працэсу, калі сцвярджаюцца ідэальныя ўзоры для пераймання, вечна рухомыя "догмы". Сярод іх маюцца дзве непадзельныя і раўназначныя, як іпастасі Святой Троіцы: ідэал жанчыны і ідэал кахання.***

# "Я ПРЫЙШОЎ ДА ЦЯБЕ..."

## ЖАНЧЫНА: ІДЭАЛ І АНТЫІДЭАЛ

У нашай класічнай літаратуры ёсць цудоўны твор — аповесць пра каханне, дзе, здаецца нам, той ідэал створаны. Гэтую аповесць можна чытаць і перачытваць бясконца. І не толькі ў пару вясны нашай. Бо гучыць яна сапраўднай паэзіяй: "Ці ж гэта не была б праўда, каб ён прыйшоў і сказаў да яе: "Я прыйшоў да цябе, бо хачу бачыць цябе, хачу чуць твой голас: ён гучыць для мяне, як вясна; хачу пачуць твой смех, бо ён, як промень сонца, асвятляе мне душу. Я прыйшоў да цябе, бо прывяло мяне сэрца".

Якуб Колас. "У палескай глушы".

Колькі чытаю аповесць, столькі шкадую, што гэтая "Зорка Венера" ў прозе перарасла ў трылогію "На ростанях". Бо ўсё самае значнае, што знаходзім у першай частцы, паблякла, згубілася, страцілася на тых шырокіх прасторах, па якіх класік павёў свайго героя, за значнасцю той мастацкай звышзадачы, якую ён вырашаў. І,зразумела, за "адзіна магчымым" шляхам, паўз які ніяк не мог прайсці Лабановіч. Таму дзве іншыя часткі трылогіі ў многім перакрэсліваюць першую. Найперш перакрэсліваюць аповесць пра няспраўджанае каханне. Ядвісю. Ідэал жанчыны.

Прыгожае знайшло ў гэтым вобразе найдасканалае ўвасабленне. Ядвіся — загадка, таямніца. Так, Лабановіч не здольны ахвяраваць дзеля яе ўсім, што мае, ці, правільней, тым, што хоча знайсці. А такой жанчыне патрэбна ўсё, без астатку. Ёй патрэбна не памяць пра іх каханне, а ён сам.

Але для нас галоўнае не высвятленне прычын, чаму каханне не здзейснілася. Галоўнае — сцвярджэнне аўтара: Ядвіся — "найлепшая, найпрыгажэйшая казка Палесся". Ядвіся — ідэал жанчыны.

Ці здольны Лабановіч, які ўсё яшчэ на ростанях, які імкнецца "насустрач жыццю і яго прыгодам", узброены запаветамі сацыял-дэмакрата Галубовіча, паверыць у казку? І таму — набыў ён ці страціў? І мы разам з ім? Мне падаецца, што затушаваў, засланіў і ў нечым нават закрэсліў класік свой ідэал жанчыны іншым вобразам, які ўзнікае ў канве твора, каб "вывесці" Лабановіча на шлях "сапраўдны". Гэта Вольга Віктараўна Андросава. Хто яна? Найперш, і гэта мы чуем ад яе пры першай сустрэчы, — настаўніца.

Спадзяюся, маё лірычнае адступленне будзе зразумелым. Гэта такое шчасце — упершыню прыйсці ў школу ў новай ролі — настаўніцы. Гэта свята, якога чакаеш — не дачакаешся... А што ж наша настаўніца? На месца сваёй працы яна спазнілася на два месяцы. Асабліва "важная" апошняя прычына-тлумачэнне: "У Пінску трохі ў знаёмых пабыла". Затрымалася. Ды і куды спяшацца, калі настаўніцкая праца для яе — "нудная справа"? Несур'ёзнасць, нясталасць і нават несумленнасць гэтай маладой жанчыны ў адносінах да працы адразу кідаюцца ў вочы: "Спішу ваш расклад, здзяру яго да літары". Мабыць, невыпадкова і школа, дзе працуе Андросава, пакідае не лепшае ўражанне. Вольга Віктараўна не хоча, не ўмее і не будзе працаваць настаўніцай. Яна мае на гэты конт ідэйныя перакананні: "Дабро вы робіце народу ці зло, забіваючы розум дзяцей і іх чыстыя душы ўсякаю казённаю трухляцінаю?"

Відавочна, як настаўніца наша гераіня не адбылася. У чым жа значнасць, вартасць гэтага вобраза? У чым яго значэнне дзеля пошуку шляхоў у жыццё? Самае парадаксальнае ў тым, што яна вучыць. Настаўніца, якая не адбылася, вучыць Лабановіча, сапраўднага настаўніка! Вучыць, куды ісці, з кім ісці, у што верыць. Ці не іранізуе Колас са сваёй гераіні? Чаму яна можа навучыць Лабановіча?

Яна — разумнейшая, лепш ведае жыццё людзей ? Зусім не. Нават даследчык Ю.Пшыркоў адзначаў некалі, быццам з прабачэннем: "Праўда, маладая дзяўчына не была інтэлектуальна больш развітай за свайго калегу". Але, аказваецца, гэта зусім неабавязкова — быць "інтэлектуальна больш развітай", каб вучыць. Сапраўды, хто хоча ведаць, той вучыцца, хто не хоча, той вучыць іншых. Важна, што "яна была звязана з рэвалюцыйнай арганізацыяй" (Ю.Пшыркоў). Якраз у гэтым асноўны сэнс вобраза Андросавай — яна рэвалюцыянерка. Эсэрка? Бальшавічка? Гэта ізноў жа неістотна. Важна тое, што яна як рэвалюцыянерка нясе ў сабе сілу неспакойную, стыхійную, разбуральную, часцей неразумную, алагічную. Антыжаноцкую.

Якая яна — жанчына Вольга Віктараўна Андросава? Яна літаральна ўрываецца ў жыццё героя, упэўнена і напорыста. Бойкая, смелая. Колькі трэба было перадумаць, узважыць Ядвісі, каб асмеліцца ступіць на парог пакоя Лабановіча! Ды так, каб на вочы ягоныя не трапіць. Андросава — новы чалавек, новая, передавая жанчына. Але хіба жанчына не нясе ў сабе нешта спрадвечнае, трывалае, што ў сваёй заўсёднасці і з'яўляецца новым?

Міжволі параўноўваем Ядвісю і Вольгу Віктараўну. Перш імёны. Андросава нават страціла жаночае імя за гэтым недарэчным дадаткам "па бацьку". Іх знешнасць. Доўгія, пышныя, незвычайнай прыгажосці валасы Ядвісі, абавязковы атрыбут класічнай жаночай прыгажосці — і цёмныя падстрыжаныя валасы Вольгі Віктараўны. "Стрыжаная!" — няхай гэта кінуў у адрас маладой жанчыны, бадай, самы брыдкі, самы непрыемны вобраз рамана дзяк Бацяноўскі, але ж "у класічным творы адмоўныя персанажы ведаюць філасофію жыцця не горш, чым станоўчыя" (В. Каваленка). Гэта аксіёма. І няхай у нас, цяперашніх, такое вызначэнне ніяк не асацыіруецца са словам "прапашчая", усё ж гэта вельмі істотны штрых у абмалёўцы вобліку гераіні. Спачатку пазбавіцца доўгіх валасоў, нейкага пэўнага тыпу паводзін, пасля адрачыся ад агульнапрынятых норм жыцця, няпісаных законаў. Урэшце пачаць ламаць, знішчаць спаконвечнае. Недарэмна Лабановічу Вольга Віктараўна нагадала ў першую сустрэчу тургенеўскую нігілістку. А першае ўражанне з'яўляецца найбольш дакладным.

Непрыемна ўражвае ў паводзінах Андросавай зазначанае Коласам быццам бы незнарок, выпадкова: "загаварыўшыся, курыла..." Так, свет перавярнуўся. Але нават і ў наш час, і ў нашым перакуленым свеце ці можна ўявіць сабе жанчыну ў вёсцы, якая, не саромеючыся, паліць? А то ж пачатак стагоддзя.

І яшчэ адзін штрых у абмалёўцы вобраза Андросавай: "Гутарка яе развязная, бойкая". Ці мог бы аўтар выкарыстаць гэты "эпітэт" пры апісанні ідэальнага вобраза?

Безумоўна, такая жанчына не магла абудзіць у душы героя пачуццё, якое валодала ім у Цельшыне. Зразумела і тое, што ён не мог пра яе не думаць. "Калі Лабановіч ішоў дадому, ён думаў аб сваёй нелегальнай рабоце і аб Вользе Віктараўне". Заўважце: пра Вольгу Віктараўну — як пра дадатак да нелегальнай работы. "У яе асобе ён бачыў першую такую дзяўчыну і прасякся да яе вялікаю павагаю". Калі Ядвіся — таямніца, казка, то Андросава — усяго толькі асоба. Казка знікла. Знікла паэзія. Засталіся сухія, звычайныя словы. Мо таму, што знікла жанчына, а ў жыццё ўвайшла нігілістка, рэвалюцыянерка.

І так, місія Андросавай у творы — "выкаваць" з Лабановіча сапраўднага, "добрага рэвалюцыянера". Хіба гэта можа быць прызначэннем жанчыны? У перавернутым свеце — можа.

"Ён ужо не мог думаць ні пра што іншае, як пра гэтую дзяўчыну, якая зблытала ўсе ягоныя думкі, апанавала яго новым нязведаным клопатам. Вельмі карцела бачыць яе..." — але ж гэта ўжо не Колас, а Васіль Быкаў. Гэта — адлюстраваная ім страшэнная, злая, дзікая ў сваёй пачварнасці і несправядлівасці сцюжа, якая прайшлася па нашым людзе, перайначвала, перарабляла спрадвечнае — аснову жыцця, яго няпісаныя законы, якія вырошчваюць у чалавеку людскасць. Адвернецца чалавек ад іх — перастане быць чалавекам, забудзецца, што самая моцная сувязь паміж людзьмі — сувязь кроўная. Але ж у гэтым і былі сутнасць, прызначэнне той сцюжы — знішчыць у чалавеку людскае. І сама ж сцюжа зруйноўвала, замятала сляды сваіх злачынстваў. І выйсця — не было. Бо чорнае, злое, калі ўжо авалодала чалавекам, самахоць ніколі не адпусціць яго, да якога б дабра, як здаецца чалавеку-ахвяры, ён не ішоў.

Сцюжа імкнецца знішчыць і тую, што павінна несці ў сабе ідэю жыцця, чысціні, нараджэння, прыгажосці, — жанчыну. Робіць яе здрадлівай, бруднай, цынічнай, жорсткай. Такая Паліна Пташкіна, гераіня "Сцюжы", спарʼаджэнне сцюжы. Але самае страшнае не тое, што такая жанчына з'яўляецца ў жыцці (у тым жыцці яна не магла не з'явіцца); страшна, што яна можа некаму падацца ідэалам. "Такая ладная, адукаваная жанчына", "такая разуменькая, да таго ж прыгожая". І ўрэшце як адкрыццё, з вялікім захапленнем: "...Ім непатрэбны ні пасаг, ні шлюб, ні вяселле, яны без прымхаў. Во гэта перадавая, бальшавіцкая моладзь!" — думае абдураны Ягор Азевіч.

# БІБЛІЯГРАФІЯ... ДЫ НЕ СУМНА

Нацыянальная бібліятэка Беларусі выпусціла бібліяграфічны даведнік "Беларуская драматургія. 1966—1986" (складальнік Н. Ватацы). Тыя, хто цікавіцца тэатрам, бадай, ведаюць, што гэта працяг аналагічнага даведніка, які, праўда, пад крыху іншай назвай — "Беларуская савецкая драматургія" — выходзіў у 1966 годзе і знаёміў з драматычнымі творамі да паловы 60-х гадоў. Дарэчы, аб гэтым сведчыць і нумарацыя пазіцый новага даведніка — адлік вядзецца ад 759-ай.

У даведніку два асноўныя раздзелы. Найбольш прадстаўнічы першы з іх, што знаёміць чытача з творамі беларускіх драматургаў. І не толькі з напісанымі спецыяльна ў гэтым жанры, а і з інсцэніроўкамі — нават тымі, якія набылі жыццё на радыё ці тэлебачанні, сцэнарыямі фільмаў. Далей называецца твор, яго жанр. Указваецца тэма п'есы, колькасць дзейных асоб, згадваюцца пастаноўкі.

Праўда, наконт гэтага ў "Прадмове" ёсць невялікае ўдакладненне: "Мы не мелі магчымасці паказаць... усе пастаноўкі беларускай драматургіі ў тэатрах Савецкага Саюза і за мяжой, бо для збору такіх звестак патрабуецца спецыяльнае даследаванне. Тут адзначаны пастаноўкі толькі найбольш буйных прафесійных тэатраў, звесткі пра якія трапілі ва ўсесаюзны, рэспубліканскі і абласны друк".

Далей можна даведацца пра публікацыі драматургічных твораў у газетах, часопісах, калектыўных і аўтарскіх зборніках, іншых выданнях. Называюцца рэцэнзіі і крытычныя водгукі як на спектаклі, так часам і на самі творы. Аднак "рэцэнзіі на абласныя пастаноўкі, змешчаныя ў раённым друку, у бібліяграфіі ў большасці не ўлічаны". Што зразумела: ахапіць усё проста немагчыма, асабліва, калі гэтым займаўся адзін чалавек.

Змест другога раздзела склалі спісы крытычнай літаратуры, што, як правіла, мае шматтэмны характар. Для зручнасці карыстання яны аб'яднаны ў падраздзелы: "Драматургія", "Драматургія і тэатр", "Драма-

*Памяці былога Літфонду*

Алесь АСТАШОНАК

# ДОМ ТВОРЧАСЦІ

## МАЛЕНЬКАЯ АНТЫЎТОПІЯ. ВЕРСІЯ 2



Параўнальна нядаўна аўтару гэтых радкоў давялося выкласці версію падзей, якія здарыліся ў нашым Доме творчасці пісьменнікаў, што на рачулцы Іслач, пад Ракавам. Версія тая (стварэнне пісьменніцкай турмы акурат на месцы пражывання літаратараў), як пісаў ён тады, была б досыць верагодная, каб не новыя акалічнасці: "Лёс распарадзіўся шчасна, і цяпер, дзякуючы новаму дзяржаўнаму ладу, праз дарагавізну пуцёвак у памянёны дом, літаратары на Іслачы болей не жывуць".

Адно ж, нягледзячы на захаванне гэтага ладу, дзякуючы намаганням новага Літфонду, кошт пуцёвак для пісьменнікаў раптам істотна зменшыўся. Цяпер ён, як гэта ні дзіўна, роўны кошту, прыкладам, усяго толькі шасці пляшак "Пшанічнай".

Дык што, болей як тры тыдні добрабыту ці тры літры глуздавы-бойніцы?..

Дзіва што пісьменнікі адразу кінуліся адпачываць на Іслач. І старыя, і маладыя, і сярэдняга веку, і бедныя, і багатыя... Зрэшты, аўтара тут занесла: багатых пісьменнікаў цяпер не бывае, гэта хіба што жменька бізнесменаў, што з'явіліся сярод сяброў літарацкай гільдзіі яшчэ ў апошнія гады неакаланіяльнай залежнасці. Кінуліся, згаладалыя па забытым камфортным адпачынку дый пільныя, поводле прынцыпу, што пачаў ужо ўядацца ў косці: "Бяры, пакуль даюць", — аніхто не верыў, што гэткая дабрачыннасць надоўга.

Прыехаў у родны дом і знаёмы якому чытачу літаратар, герой папярэдняе версіі, вядомы калісь аматар памянёнага напою і з нябеднай фантазіяй. Мінулі тыя часы, калі ён мог піць дзень пры ночы, ноч пры дні ўвесь адпачынак дый яшчэ нешта крэмзаць, але фантазія засталася.

"Няма таго, што раньш было", — часта пошла, а часта і трапна абыграе народ славуты радок паэта, з якім хутка давялося згадзіцца цяперашнім абжывальцам іслацкіх апартаментаў.

"Дзе тыя былыя вечаровыя кефіры ды сокі! Дзе кіназала з амаль штодзённымі фільмамі не самай апошняй даўнасці! Дзе бясплатныя камінныя гасцёўні ды більярдная зала! Дзе кабеты-прафсаюзніцы, стройныя й статныя, якія чародамі наляталі сюды кожныя дванаццаць дзён на ўцеху асабліва шпаркім майстрам пяра! — вохкалі й войкалі і сівыя, і лысыя, і патлатыя. Але нашмат мацнейшыя расчараванні выклікала вось што: — Дзе тая лазня за рубель, у якой цяпер адно ў парылцы не мерзнеш. Дзе, нарэшце, раз ужо такі расклад, гарэлка па боскай цане?!"

Аўтар не марудзячы, як і ў мінулай версіі, закрануў тэму пітва, бо як без яго было абысціся ў цяперашнім Доме творчасці — людзей у нумарах ад холаду трэсла, гэтак абаграваўся будынак, прызначаны спрыяць розным творчым працэсам. Цяпер ён спрыяў толькі співанню пісьменніцкага племені. Нават самы застойны час, калі на ганарар грэх было жаліцца, а гаворкі ў багемных шынках вяліся задушэўныя, як між братамі, нават той самы кляты час не спрыяў гэтак літарацкаму алкагольнаму самавынішчэнню, як іслацкая кацельня.

Добра было б, каб співаліся адно нездары, якім лепей і не набліжацца да паперы, — кацельня касіла змушаным з'яўленнем пляшкі на пісьмовым стале ўсіх, без разбору, здольных нават яшчэ больш касіла, бо так ужо ўладкавана іхняя неспакойная душа, у якой вечны бунт супраць усяго існага, нават супраць самога сябе. Запіў тут нават адзін несправядліва ненародны пісьменнік, запіў упершыню на доўгім сваім вяку, па-чорнаму: баяўся ж нябога акалець, а так хацелася дапісаць раман!

Плюнуць на ўсё і з'ехаць адсюль дахаты не дазваляла кожнаму інстынктыўная сквапнасць: "Як з'ехаць, калі кошт ажно дваццаці чатырох дзён пражывання й харчавання не перавышае кошту шасці пляшак?!" — і ніхто ў хцівасці гэтай не задумваўся над тым, як дорага абыдзецца пуцёўка: трэба было купляць аж па тры пляшкі на дзень — і гэта, каб толькі выжыць, а каб жыць па-сапраўднаму (не баючыся прычым аніякай алкагольнай інтаксікацыі: не брала пойла за глузды, адно нутро саграваў), патрабавалася пяць-шэсць пляшак — самым кволым.

А тут яшчэ маразы ўдарылі — даўно не было такіх маразоў!

Ратаваліся ў лесе. Палілі вогнішчы, пілі гарэлку. Спрабавалі пісаць, прысеўшы на пяньку. І клялі на чым свет стаіць былога сталага жыхара дома, пісьменніка-партызана, ляснога санітара Савіцкага, які, па ваеннай сваёй звычцы, усё паліў і паліў штодня і штовечара вогнішчы і высек-вычысціў у выніку ўвесь навакольны лес, бы той руплівы бабёр. Цяпер, каб насячы галля, трэба было напабегацца, і задумваліся ўжо некаторыя прасветленыя марозным паветрам ды сцюдзёнай гарэлкаю галовы, як прыдбаць талакою бензапілу "Дружба".

Грошай на бензапілу, колькі ні пнуліся, не назбіралася, і тыя ж светлыя галовы дадумаліся напісаць "чалабітную" старшыні Літфонду, брату па пяры, пісьменніку Жалязоўскаму, прыкладна такога зместу: "Не можаце забяспечыць кацельню палівам, не можаце даць у кожную палату... даруйце, нумар па абагравальніку, і не абыякім, — а то вось нядаўна перакладчык Эйдэльсон, не пражыўшы тут і трох дзён, уцёк у Менск, бо ж сказалі яму, што абагравальнік ягоны, які Эйдэльсон, па сваёй заўсёднай абачлівасці, захапіў з сабою, спальвае ў жытле кісларод, — не можаце даць гэтага, дык дайце тады ўжо кожнаму пісьменніку, у залежнасці ад яго спажывецкай магутнасці, па тры-сем пляшак на дзень: замярзае-канае літаратура!"

Наш герой вырашыў праблему па-свойму. Піць ён ужо не піў — дактары забаранілі, вогнішчаў не паліў — не хапала духу нават з нумара выйсці, а ляжаў дзень пры ночы, ноч пры дні ў ложку, пад трыма коўдрамі, чытаў толькі смешныя кнігі і глядзеў па прывезеным з сабою відэамагнітафоне адныя камедыі, бо смех таксама, як вядома ўсім, хто калі-небудзь смяяўся, саграе. Ежу з сталоўкі-лядоўні прыносіла самаахвярная жонка. Яна ж і расказвала яму пра вогнішчы, бачыць якія ён мог толькі праз вакно, і пра тое, як у Ракаў возяць не навозяцца гарэлкі, што пісьменнікі зрабілі тамтэйшым крамам за два тыдні чатыры месячныя планы. І аніводнага п'янага не відаць, казала яна, усе адно крыху падрыгваюць, носячы галлё, не тое што ты — калоцішся й калоцішся пад сваімі коўдрамі, не раўнуючы як той, што спрабаваў ля вогнішча на пяньку пісаць.

Ад нуды літаратар пераключаў свой куплены некалі на непрапітыя грошы "відак" у тэлевізарны рэжым і глядзеў, каб не адстаць ад пазаложкавага жыцця, навіны. Тым часам ударылі не толькі маразы, але і расейскае войска па Чачні. Лімонаў прыехаў у Менск на сустрэчу з мясцовымі падфіліямі партыі сына рускай і юрыста ды "Русского национального единства" і ледзь не быў збіты, балазе што паспеў, як кажуць, уцячы, барані Божа каму з нас, праз вакно. Аднак найбольш зацікавілі пісьменніка паведамленні з Тбілісі: там мароз хоць і даходзіў усяго толькі да мінус пяці, але дамы ўвогуле не абаграваліся і нават сцены парламента абдавалі дэпутатаў у паліто холадам, нават сам былы міратворца і паплечнік вялікага рэфарматара, а цяпер кіраўнік усяго Сакартвела быў апрануты, а некаторыя, самыя мужныя абраннікі народа вырашалі важныя дзяржаўныя справы ў касцюмах.

Навіны з далёкага бліжняга замежжа ўзбадзёрылі залеглага літаратара, надалі яму мужнасці, аж сорамна стала за сваю распешчанасць.

І аднойчы ўначы, — калі ён раптам прачнуўся пад сваімі трыма коўдрамі, адзеты ў кальсоны і ўцепленае трыко, у шарсцяных шкарпэтках і шапцы на галаве, прачнуўся ў гарачым поце, бо ўбачыў, як яго даганяе з аўтаматам Калашнікава Лімонаў, творамі і асобай якога ён грэбаваў, даганяе й крычыць: "За что ты не любишь меня — Палача! Это же я — Эдичка! За что, белорусс, мы же издревле единокровные братья!", прачнуўся, бо разбудзілі яго, да таго ж, нейкія дужа нязвыклыя гукі, — яму нясцерпна забалела-заныла ўсё зляжалае цела, і ён падумаў, што гэтак можна зарабіць сабе і пролежні, і атлушчэнне, і інфаркт, і чорт яго ведае якую яшчэ трасцу. І тады ён скінуў з сябе разам усе свае тры коўдры, тым больш што дзіўныя гукі ўсё яшчэ чуліся, і выйшаў у калідорчык.

Гукі мацнелі. Здаецца, гэта былі стрэлы і выбухі. А ён жа не піў! Не піў ён! Як ні калаціліся ад холаду рукі, ён усё-такі асцярожна адчыніў дзверы і выглянуў у доўгі калідор.

Страляніна нарастала, усюды ўспыхвалі агні, час ад часу ўзрываліся гранаты.

"Глядзі, дап'ешся!" — казаў яму калісь крытык Таміла.

"Глузды з'едуць, як кінеш піць. Асабліва са мною", — казаў яму тады ж паэт Матраховіч, якому ўначы бачыўся ў куце чорны чалавек.

Мо й праўда не варта было так рэзка завязваць і з пітвом увогуле і з пасядзелкамі ў Матраховіча ў прыватнасці?

Ён жа й пісаў цяперака асцярожна — аніякіх фантасмагорый, аніякага авангардызму — чысты, дыхтоўны рэалізм і, барані Божа, аніякіх кашмараў-мараў.

Дык што ж гэта, бляха, здарылася?

Літаратар ціхенька, прыціскаючыся да сцяны, пасунуўся па калідоры, у бок бібліятэкі, адкуль чуліся стрэлы й выбухі. Пакуль ён баязліва дабіраўся да невядомасці, бабахнула гэтак, што яго ажно ў паветра падкінула. Нарэшце ён дасягнуў канца калідора, лёг на падлогу і ўжо паўзком, зусім марудліва, прапраўся далей, да калідора перпендыкулярнага папярэдняму.

У самым ягоным пачатку ляжаў і страляў у другі канец старшыня літфонду пісьменнік Жалязоўскі, які прыехаў учора, казала жонка, на агляд, па ягонай папярэдняй ацэнцы, сітуёвіны. Страляў ён з карабіна — мерна-мерна — усё роўна як некага метадычна адстрэльваў. З кішэні ягонага пінжака, накінутага на кальсонны гарнітур, тырчэла лімонка.

Але куды яму было ўстояць супраць вялікага народнага пісьменніка Чыгрынава, які лупіў у бок бібліятэкі з гранатамёта і роў: "Патрабую, каб мой нумар абагравалі! Каб абагравалі мой нумар! Я старшыня фонду!" Рык перакрываў нават выбухі гранатаў, што выляталі адна за адною з ягонага магутнага гранатамёта, гранатаў, што рваліся непадалёк ад беднага непатапляльнага Жалязоўскага, які таксама рычэў-агрызаўся: "А я табе што, не старшыня фонду?" Хто страляў і кідаў гранаты ў іншых калідорах, адсеках і нумарах дый, мабыць, на двары ўжо, літаратар выведваць не насмеліўся.

Пасунуўся назад.

О Божа!

Насустрач яму ішоў Джахар Дудаеў і няспынна паўтараў: "Прошу политического убежища в вашей мирной стране". З нумароў, бы ашпараныя, выскоквалі нейкія грузіны — скарыстаўшы момант, выносілі абагравальнікі. Несправядліва ненародны пісьменнік Іван Пташнікаў, які ўпершыню запіў тут, каб дапісаць свой, можа, апошні раман, спакойна-ўрачыста насоўваўся на мяцежнага генерала, анізвання не зважаючы на мітуслівых грузінаў, і нёс, па дзве пляшкі ў кожнай руцэ (дзе дастаў толькі ўначы!), "Празрыстую" — "Пшанічная" ў Ракаве скончылася.

А пасярод калідора раптам пачуўся звон разбітага шкла. Не, гэта не білі апарожненыя бутэлькі з-пад упадабанай імі "Налібоцкай" прафесар Конан і перакладчык Сёмуха, спрачаючыся аб Заратустры й Левэркюне.

Гэта сам Эдзічка мужна пратараніў лобам і натрэніраваным целам вакно і выскачыў з вышыні мала не ў пяць метраў на слабазаснежаны двор. "В Киев! — крычаў ён. — На этот, мать его.., минский вокзал — и к малороссам. К малороссам! С этими белоруссами х... разберешься!"

І тут літаратар упершыню ў жыцці падумаў, што й праўда, з гэтымі беларусамі, бадай, не разбярэшся. Нават пры такім прэзідэнце, як наш. З усім ягоным найбагацейшым вопытам кіравання. Ні за што ў жыцці. Нават з дапамогаю Джахара Дудаева, калі яго кінуць на барацьбу з карупцыяй, нават калі прыняць усе чачэнскія "незаконные вооруженные формирования" і замяніць імі нашую доблесную, але знясіленую міліцыю. Нават калі эканоміць паліва ў парламенце. Ні за што. Ніколі. А можа?..

Надзея заўжды памірае апошняя.

Літаратар ішоў пад тры свае коўдры з надзеяй. З надзеяй, што хоць не прысніцца яму ні Дудаеў, ні Эдзічка, ні Лукашэнка ў футры на прэзідэнцкай трыбуне, ні, тым больш, перастрэлка Чыгрынава й Жалязоўскага, ні, крый Божа, запой Івана Пташнікава разам з усім "звёнзкам".



І гэтая версія, мяркуе аўтар, была б досыць верагодная, калі б пісьменніцкіх даходаў хапала хоць на дзве пляшкі гарэлкі на дзень.

*22 снежня 1994.*
*Іслач. Холадна-холадна.*

# ВІЦЕБСКАЯ АКВАРЭЛЬ: АСЭНСАВАННЕ ТРАДЫЦЫЙ

**Напрыканцы XX стагоддзя ў беларускім выяўленчым мастацтве ўсё больш відавочным становіцца імкненне асэнсаваць шляхі развіцця асобных відаў і жанраў, пэўных мастацкіх напрамкаў і плыняў, мясцовых мастацкіх школ. Добрае сведчанне таму — мінулагодняе святкаванне 75-й гадавіны Віцебскай мастацкай школы. Менавіта гэтая падзея канчаткова пераканала мастакоў і музейных работнікаў арганізаваць спецыяльную выставу, прысвечаную гісторыі і сучаснасці віцебскай акварэлі. У Віцебскім мастацкім музеі прадстаўлена больш за 100 твораў 30 мастакоў Віцебска, Полацка, Навапалацка. Сярод іх славутыя "мэтры", мастакі-традыцыяналісты Ф. Гумен, І. Сталяроў, Г. Шутаў; сталыя, стылістычна вызначаныя майстры М. Драненка, М. Ляўковіч, В. Шыёнак, В. Шапо, Л. Воранава, А. Карпан, маладыя творцы. У кампазіцыях віцебскіх мастакоў традыцыйныя для акварэлі жанры часцей саступаюць месца прытчам, алегарычным, сімвалічным, асацыятыўным вобразам. Мастакі вольна аперыруюць сусветным мастацкім вопытам, добра адчуваюць сябе ў прасторы і часе. Нярэдка яны звяртаюцца да фармалістычных эксперыментаў з лініяй і плямай. І гэта сведчыць, што віцебская акварэль, якая першай у рэспубліцы набыла ўласны твар і акрэсленыя рысы школы, не страціла сваіх пазіцый і мае вартых паслядоўнікаў.**

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**
*г. Віцебск*

# МІФАЛАГЕМЫ КАНСТАНЦІНА АНДРУКОВІЧА



**У мастацкім цэнтры "Жыльбел" адбылося адкрыццё выставы жывапісца Канстанціна Андруковіча. Ён не навічок у беларускім мастацтве, сябра суполкі "Пагоня", але да апошняга часу імя гэта не было шырока вядомае.**

**Андруковіч вылучае з рэальнасці нейкую асабістую, аднаму яму падуладную дзялянку, ставіць пытанне, але не адказвае на яго, запрашаючы тым самым кожнага ў сааўтары. Значнае месца ў ягоным творчым жыцці займае эпоха Адраджэння з яе глыбокай прафесійнай школай, павагай да майстэрства. На гэтым базісе будуецца сучасны светапогляд Канстанціна, які ў многім залежыць ад міфаў, казак і створаных ім самім міфалагем.**

**Алесь ТАРАНОВІЧ**

*У часе адкрыцця выставы.*
*Фота А. Смольскага*

# ПЕРШЫ І АПОШНІ

**Вокладка ў бел-чырвоных колерах, на ёй карта Беларусі ў этнічных межах, таму пазначаны Вільня і Смаленск — так выглядае часопіс "На чужыне", першы нумар якога з'явіўся 75 гадоў назад — у сакавіку 1920 года дзякуючы намаганням рыжскага аддзела Беларускага культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына" пры самым непасрэдным удзеле яго старшыні Кастуся Езавітава. Рэдактар — Рыгор Казячы.**

**Часопіс ставіў за мэту згуртаваць "усе беларускія сілы, што працуюць на чужыне". У ім была разнастайная інфармацыя, партрэты К. Езавітава, А. Луцкевіча, К. Душэўскага, П. Крэчэўскага і іншых, хто рупіўся аб будучыні Беларусі, тэкст з нотамі песні "Адвеку мы спалі".**

**На жаль, першы нумар стаў і апошнім. Тым большая павага да яго. Гэта часцінка нашай нацыянальнай гісторыі, якую мы доўгі час, на жаль, не шанавалі.**

Віншуем!

# Аркадзю МАРЦІНОВІЧУ — 75



Вёска Барбарова Глускага раёна — радзіма Аркадзя Нічыпаравіча. У 1939 годзе ён скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча, працаваў у Турэцкай і Цітвянскай сямігадовых школах на Міншчыне. Прызваны ў армію, удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне, а затым — у Вялікай Айчыннай вайне.

З 1946 года А. Марціновіч літаратурны супрацоўнік, а затым загадчык аддзела рэдакцыі газеты "Савецкі селянін". У 1950 годзе скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ, у 1955-ым — завочна — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях газет "Калгасная праўда", "Літаратура і мастацтва", выдавецтве "Беларусь", з'яўляўся адказным сакратаром Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры і мастацтва, літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў. З 1974 года да выхаду на пенсію — галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура".

З першымі вершамі А. Марціновіч выступіў у рэспубліканскім друку ў 1938 годзе. Дарэчы, у 1965 годзе выдаў кнігу паэзіі "Чырвоныя ветразі". І ўсё ж сапраўднае прызванне Аркадзь Нічыпаравіч знайшоў у галіне прозы. На яго мастакоўскім рахунку кнігі аповесцяў і апавяданняў "Надзея" (1960), "Водгулле" (1963), "Прасека" (1967), "Панарама" (1970), "Няхай ідзе дождж" (1973) і іншыя.

Аркадзь Марціновіч належыць да тых, хто ў сваёй творчасці паспяхова асвойвае жанр рамана, аб чым засведчылі такія яго творы, як "Не шукай слядоў сваіх" (1979), "Груша на Голым Полі" (1986), "Цень крумкачовага крыла" (1981)...

Пісьменнік востра закранае і псіхалагічна глыбока адлюстроўвае складаныя маральна-этычныя праблемы. А. Марціновіч часта карыстаецца такім мастацкім прыёмам як рэтраспекцыя. Не адмаўляе ён і аўтабіяграфічных момантаў, што, у сваю чаргу, вядзе да яшчэ большай праўдзівасці.

Вядомы А. Марціновіч і як перакладчык — "Прыгоды Гугуцэ" С. Вангелі (1971), "Месяц і сонца" С. Баруздзіна (1972), "Белая вясёлка" К. Паўстоўскага (1976)... Для дзяцей у 1966 годзе выдаў аповесць "Неадкрыты востраў".

Ад усяго сэрца віншуем Аркадзя Нічыпаравіча, колішняга лімаўца, з 75-годдзем! Новага творчага плёну Вам, доўгіх год жыцця!

Пошта

# БЕЛАРУСЬ ПАТРЭБНА НЕ ТОЛЬКІ БЕЛАРУСАМ

У апошні час грамадская думка засяродзілася на абароне беларускасці і мала ўдзяляецца ўвагі астатнім нацыянальным групам, многія пакаленні якіх жывуць у нашай краіне. Больш таго, з'яўляюцца прагнозы, што спрадвечныя жыхары Беларусі — палякі, яўрэі, татары, украінцы і рускія будуць квітнець на нашай зямлі і без беларусаў. Бо ім, маўляў, усё роўна, будзе ў нас дзяржаўнае "двухмоўе" ці не, будзе двайное грамадзянства ці не, і іх зусім не хвалюе, хто будзе сцерагчы нашы дзяржаўныя межы, які банк будзе нас фінансаваць, хто і якая краіна будзе ўладальнікам кантрольнага пакета акцый у прамыслова-фінансавых групах на нашай тэрыторыі, куды пойдзе прыбытак, атрыманы ў нас, якую армію мы кормім, дзеля чаго ў нас расійскія ваенныя базы.

Ва ўсіх на слыху галоўныя прынцыпы рынычных адносін: свабодны рух тавараў, капіталаў і працоўнай сілы. Але ні гу-гу пра тое, што ўсе цывілізаваныя краіны робяць гэта на карысць сваіх дзяржаў, на карысць тых народаў, якія жывуць у гэтых краінах. Нацыянальныя інтарэсы асобных дзяржаў у рынычных адносінах стаяць заўжды на першым месцы.

Цяпер давайце паразважаем, якую карысць атрымаюць беларускія меншасці, калі не будуць абараняць беларускую дзяржаву і самога беларуса. Улічваючы, што шматнацыянальную паказуху (тыпу СССР) ужо не вярнуць, наша дзяржаўнасць нікому ў свеце не будзе патрэбна без носьбітаў нацыянальнай мовы і культуры — беларусаў. Дзяржаўнасць Беларусі з цягам часу трансфармуецца ў губернскае расійскае падначаленне, а насельніцтва краіны — у жыхарства, накшталт беларускіх этнічных смаленцаў, пскоўцаў і бранцаў...

А што дасць беларускаму яўрэю, паляку, татарыну, украінцу знікненне талерантнага, сціплага, працавітага беларуса? На мой погляд, нічога добрага. Адно — змену беларускага менталітэту на вялікарасійскі, духоўнае і матэрыяльнае збядненне насельніцтва ў "адзінай славянскай" Расіі.

**Анатоль КАЛАЧОЎ,**
**кандыдат эканамічных навук,**
**дацэнт БАТУ**

# ЛАМБАРД

*(Пачатак на стар. 5)*

— Само сабою. У нас ёсць ліцэнзія мясцовага райвыканкама і Камітэта па рабоце з каштоўнымі металамі і камянямі. Наш заснавальнік — "Комплекс-Банк". І ўжо адна гэтая акалічнасць прыцягвае да нас кліента. Мы — банкаўская салідная структура, а не прыватная крамка, якую заўтра могуць зачыніць.

**— Дзяржаўны ламбард працуе пераважна з каштоўнымі металамі. А вы?**

— Не толькі. Мы зацікаўлены ў сваім кліенце, мы можам выдаць яму любую пазыку пад заклад самых дарагіх рэчаў. Таму мы працуем і з нерухомасцю — гэта гаражы, дачы, кватэры. У нас ёсць дамова са страхавой кампаніяй, мы выязджаем на месца, глядзім аб'ект, пасля вядзём перамовы аб памеры пазыкі. Тэрмін яе — месяц, за карыстанне ёю — 45 працэнтаў ад сумы. Можна працягваць тэрмін пазыкі і аплачваць толькі працэнты, але — у падвоеным памеры. Больш чым на месяц дамову не афармляем, таму што абставіны, сітуацыя дужа зменлівыя, інфляцыя пакуль што не мае тэндэнцыі да зніжэння.

Карацей кажучы, нам можна здаць пад заклад усё, што карыстаецца попытам. Вырабы з каштоўных металаў і камянёў прымаем таксама без абмежаванняў, адзіная ўмова — на іх павінна быць наша, айчынная проба.

**— Ці надараецца, што пад заклад прыносяць антыкварыят, каштоўныя паперы, акцыі, векселі і г. д.?**

— І досыць часта. І мы прымаем любыя каштоўыя паперы, векселі, аблігацыі, акцыі іншых банкаў, чэкі "Маёмасць" і інш. З антыкварыятам больш складана. Патрэбны спецыялісты. Ёсць у нас дамова з карціннай галерэяй "На ростанях", карыстаемся паслугамі іх спецыялістаў, калі трэба ацаніць карціны, скажам, ці іконы. Апошнія былі ў нас, але іх своечасова выкупілі.

**— І праблем з грашыма, з выплатай закладных сум у вас няма? Дарэчы, кліенты вашы — бедныя, багатыя?**

— Мы, яшчэ раз падкрэслю, зацікаўлены ў сваім кліенце і не дапусцім, каб ён пайшоў ад нас ні з чым. Наша таварыства аб'ядноўвае сетку ламбардаў па горадзе, гэта некалькі пунктаў. І калі не будзе грошай у адным пункце, дык будзе ў другім, трэцім. Ну, а што датычыць бедных і багатых... У камерцыйныя ламбарды бедны кліент не пойдзе, вядома. Ён ідзе ў дзяржаўны, нават пасядзіць там у чарзе, каб аддаць рэч у заклад пад малы працэнт. Я б і сама за такі працэнт пракрэдытавалася там. Пры нашай інфляцыі там крэдыт практычна бясплатны. На атрыманую там пазыку набуду валюту і проста пратрымаю яе ў кішэні — усё роўна буду ў выйгрышы. Мы гэтак працаваць не можам. Нам увесь час трэба прыстасоўвацца да абставін. Зараз усе і ўсё пералічваюць у валютным эквіваленце, рублёвыя крэдыты нам практычна не выдаюць. Таму і мы вымушаны быць з кліентамі ў больш жорсткіх стасунках. А валютную пазыку даваць пад заклад мы не маем права, ліцэнзіі на валютныя крэдыты Нацбанк нам не даў. А кліентаў было б нямала. Колькі адных "чаўнакоў" матляецца туды-сюды, бяруць адзін у аднаго валюту пад працэнты, пасля між імі ўзнікае нямала вострых разборак. Мы, натуральна, маглі б дапамагчы гэтыя людзям, ды, на жаль, такія паслугі адпладаюць, зараз рознічны гандаль за валюту забаронены. Усё ж у нейкай меры сацыяльнае напружанне мы здымаем, бо чалавеку ёсць дзе пазычыць грошы, хай сабе і пад заклад дарагіх рэчаў і пад высокія працэнты...

**— Наталля Георгіеўна, ці многа рэчаў у вас застаецца незапатрабаванымі? Што вы робіце з імі потым?**

— Людзі не заўсёды прыходзяць за сваімі рэчамі. А што робім з імі? Прадаём, вядома. Вы бачылі, што ў нас у продажы сёння вісяць і футра, і дублёнка, стаяць японскі тэлевізар і відэамагнітафон. У нас яны значна танней, чым у звычайным магазіне. Нашы работнікі маюць прыярытэтнае права набыць незапатрабаваныя тавары, за выключэннем золата. Увогуле, мушу адзначыць, што кадры нашы трымаюцца за сваё рабочае месца, бо заробкі ў нас неблагія. А падбор кадраў вельмі строгі, прынцыпова не бяром былых работнікаў гандлю. Савецкі гандаль наклаў на іх глыбокі адбітак — гэта, як правіла, грубае абыходжанне з кліентам, не заўсёды чыстае сумленне. Дарэчы, усе работнікі ў нас — з вышэйшай адукацыяй.

**— Дык, значыць, нон праблем?**

— Ну, чаму ж? Раз працуем, дык і праблемы ёсць. Але галоўная, канечне, гэта немагчымасць ўзяць рублёвы крэдыт на нармальных — не драконаўскіх — умовах.

Вось і ўвесь сказ, шаноўныя чытачы. Мяркую, што гэтыя кароткія інтэрв'ю далі вам пэўнае ўяўленне пра наш ламбард — і адзін, і другі. З аднаго боку, установы гэтыя, як і ва ўсім цывілізаваным свеце, быццам і патрэбныя; жыццё зараз такое, што раз-пораз кідае чалавека ў розныя пераплёты, змушае шукаць паратунку, дзе толькі можна, нават і ў тым, каб недзе перахапіць тысячу-другую — дажыць да зарплаты. З другога боку, калі ўжо дайшло да ламбарда, да пазыкаў, то справы — дрэнь. З дапамогаю ламбарда наўрад ці разбагацееш. Хутчэй — наадварот. Нездарма ж у народзе гаварылі: "пазыкі завялі ў лыкі". Што азначала: пазыкі не абагацілі яго, а абулі ў лыкавыя лапці.

Дык якія высновы тут можна зрабіць? Сумныя, вядома. Пабяднелі мы, стала нам цяжка зводзіць канцы з канцамі. І што? На выручку, на падмогу нам ламбард дзверы расчыніў. Толькі ці варта хадзіць туды беднаму чалавеку? Дзеля таго, хіба, каб аддаць за бясцэнак апошнюю дарагую рэч з хаты? Памяць бацькаву, матчыну, дзедаву? А багаты чалавек, вядома, і ў ламбардах знойдзе для сябе выгоду.

**Ламбарды наведвала**
**Марыя ГІЛЕВІЧ**

**P. S. Калі інтэрв'ю было падрыхтавана да друку, упраўляючая ламбардамі Л. Лукашэвіч паведаміла, што праблема з атрыманнем грашовага крэдыту на сённяшні дзень вырашана, і дзяржаўныя ламбарды, гэтак жа як і камерцыйныя, маюць магчымасць абслугоўваць усіх тых, хто хоча атрымаць пазыку пад заклад.**

# "НАРМАЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ ЦУРАЮЦЦА НАШАЙ ПАЛІТЫКІ"



*Калі па запрашэнні Клас-клуба сцэна Альтэрнатыўнага тэатра мусіла была прадставіць госця — Армена Джыгарханяна, адразу згадаўся ўдзел знанага акцёра ў адным з самых нашумелых маскоўскіх спектакляў "Вячэра" Ж.К.Брысвіля. Перад расійскімі калегамі трыумфальна адвячэралі на сваіх сцэнах французскія "зоркі"; потым вытанчанае ды звадлівае "ядзенне" занатавала кінастужка, і мела яна ў Францыі важкі поспех. Армен Джыгарханян ды Алег Табакоў сваім "аб'яднаннем на дваіх" (паводле аўтараў, вядома) развярэдзілі смак беларускіх майстроў: Юры Сідараў ды Расціслаў Янкоўскі ўжо каштуюць сваю "Вячэру" на малой сцэне Акадэмічнага рускага тэатра. А самае адметнасці драматургічнаму матэрыялу надалі дзве гістарычныя постаці па прозвішчах Фушэ ды Талейран: паміж іхнімі відэльцамі ды келіхамі высвятляўся ды вырашаўся... лёс Францыі. Прытым што сама гісторыя не пакінула сумніву: яны і напраўду шмат вырашалі, уплывалі, ціснулі... Спадар Талейран, знакаміты дыпламат, у рангу міністра парадкаваў замежныя справы Францыі — і падчас Дырэкторыі, і падчас Консульства, натуральна, разам з імператарам Напалеонам, і пры рэстаўраваным Людовіку XVIII. Спадар Фушэ, гэтаксама міністрам, кіраваў ва ўсе (!) адзначаныя часіны паліцыяй, дасканаліў палітычны вышук, пладзіў шпегаў, заахвочваў сачыць ды падглядаць... Па сутнасці такога зліцця мастацтва і палітыкі я і мусіла папытаць:*

**— Спадар Джыгарханян, магчыма, вы бераце ўдзел у спектаклі "Вячэра" з пэўнымі палітычнымі асацыяцыямі? Магчыма, атаясамляеце паводзіны вашага сцэнічнага героя з нашай палітычнай рэчаіснасцю?**

— Бадай, не. Мы... проста іграем. Проста пражываем, як той казаў, жыццё гэтых людзей: намагаемся зразумець, як, чым яны трымаліся, як любілі... гэтае ежыва ды ядзенне, гэтае сваё жыццё, а ў выніку атаясамленні мусяць узнікнуць у залы. Бо калі мы станем іграць палітыку... Гэта — не місія тэатра. Тэатр не павінен займацца высвятленнем якіхсьці палітычных пытанняў — перадусім і тым больш палітычных! Сам аўтар п'есы, думаю, вельмі дакладна гэта адчуў, падаўшы не сустрэчу, не спатканне, не размову, а — вячэру двух палітыкаў, якая змяшчае ў сябе куды больш за ежу і куды больш за перамовы...

**— Гэткую ўяўную, значную, лёсавызначальную вячэру...**

— Нармальную вячэру. Фушэ паесці любіў... па-плебейску. Рыса адметная. У мяне быў сябра, які калісьці здымаў кіно пра Марціраса Сар'яна, вялікага мастака. Там — непаўторныя кадры, сведчанне таго, як часта мы памыляемся, іграючы творчасць, дэманструючы яе. Памятаеце, як у вядомым фільме Тарас Шаўчэнка шырока расчыняе вакно, раскідае рукі, утаропліваецца вачыма ў нікуды ды дэкламуе: "Рэве тай стогнэ Дніпр шырокі..."? Творчы працэс сціплейшы. А палітыка — таксама творчасць. Дык вось, мой сябра, тады яшчэ — малады рэжысёр, абедаў разам з Сар'янам, і Марцірас Сяргеевіч спытаўся, маўляў, вось каб табе, дружа малады, выпала здымаць кіно пра Бетховена, што б табе было цікавей: як ён абедае альбо як ён піша музыку? Рэжысёр разгубіўся, а Марцірас Сяргеевіч сваё: цікавей, як ён абедае. Таму што толькі ў сціплых, будзённых праявах чалавек выяўляецца напоўніцу. А творчасць — гэта дужа інтымна, надта патаемна, пакрыёма. Гэтага назіраць немажна. Не, назіраць (мо — падглядаць?) можна, але ты нічога не зразумееш, калі гэта сапраўдная творчасць. Вось так... ядзім і мы. Вось такі Фушэ, які ўбачыў паштэт з гусінае пячонкі з труфелямі — як ён яго ўбачыў, як есць, як любіць... Я так доўга пра гэта кажу, каб давесці, што ўсё канчаткова вызначае жыццё, не палітыка...





**— Газеты, рэцэнзуючы спектакль, заўважалі, што ежа на сцэне — сапраўдная, прытым што ў аўтара вядуць рэй стравы, мовім так, не шараговыя. (Сп. Джыгарханян голасна смяецца.) Акцёрам у Расіі (змоўчу пра нашых) ці часта выпадае так падсілкавацца... не на сцэне?**

— У сэнсе "кашчавай рукі голаду"? Мае месца. Што тут хаваць: пра нашы зарплаты можна размаўляць толькі жартам.

**— Нават высакакласным прафесійнікам?**

— Зарплаты, на жаль, не разбіраюць прафесійнасці. Тэатральныя. Ёсць людзі, якія не здымаюцца ў кіно, на тэле, не маюць магчымасці зарабіць па-за тэатрам. Складанае гэта пытанне, сорамна сведчыць пра ягоную нявырашанасць. А мо і невырашальнасць...

**— Магчыма, пры Фушэ ды Талейране акцёрам плацілі прыстойна?**

— Баюся, што не. Баюся, што заўжды абапіраліся на мастацтва, заўжды трымаліся за мастацтва, але мастакоў заўсёды дрэнна кармілі...

**— Барыс Любімаў у інтэрв'ю "ЛіМу" заўважыў, што цяпер ледзь не добрым тонам лічыцца: як толькі што здарыцца ў дзяржаве, дык — бегчы па параду (умоўную), па падтрымку (або па асуджэнне) да вядомых дзеячаў мастацтва. Да вас прыбягаюць?**

— Не магу сказаць, што паломнічаюць. Не думаю, што ацэнкі дзеячаў мастацтва такія важныя нашаму грамадству і яно іх чакае, да іх прыслухоўваецца.

**— Ужо — не такія важныя?**

— Калісьці нас заахвочвалі паводле дырэктывы: маўляў, патрэбны мастакоўскі голас сям ды там, але цяпер, мяркую, усе нармальныя людзі цураюцца вялікай палітыкі, нашай палітыкі, рыхтык як звяглівага, нахабнага, гэтак званага грамадскага жыцця. Дый не думаю, што чалавек мастацтва можа нараіць нейкія сур'ёзныя рэчы палітыкам. Чалавек мастацтва, або, дакладней, само мастацтва, можа трапна знайсці хваробу, выявіць яе, паказаць, але не заўсёды ўмее лекаваць. Мастацтва не мае, дарэчы, ні магчымасцей, ні сродкаў для гэтага. Але знайсці, ведаеце, як дыягнаставаць: вельмі і вельмі важна. А ўвогуле мастаку, хоць натхнёнаму, хоцьураўнаважанаму, не прыдаецца грамадства ў істэрычным стане. А ў нас цяпер — што ні з'ява, што ні праява — на ўсім пазначка істэрыі. Калі, дасць Бог, усё супакоіцца, суцішыцца, можна будзе ізноў казаць пра тэатр-храм. Бо ў храм ходзяць спавядацца, а не даведвацца, як сябе паводзіць, каб жылося з выгодамі. Спачатку ачысціць душу, каб потым зразумець, як нам жыць далей. Благое мастацтва намагаецца часам раіць: прымайце пірамідон... або што там рэкламуюць? Панадол? Але прачытайце спачатку на пакаванцы кіраўніцтва да ўжытку: ён не надта бясшкодны. Можа, і без панадола боль можна ператрываць, — каб потым яшчэ мацней не забалела...

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P.S. Спектакль, які прадставіў Клас-клуб на сцэне Альтэрнатыўнага тэатра, таксама будаваўся ды складаўся з гульняў, — вяла рэй картачная гульня ў джын паводле аднайменнай п'есы Д.Коўберна (і гэтая п'еса, дарэчы, увасоблена беларускімі майстрамі Зінаідай Браварскай ды Яўгенам Лебедзевым). Нагода прадставіць спектакль больш падрабязна з'явіцца праз колькі часу, а цяпер можна задаволіць цікавасць фотаздымкамі Віктара АМІНАВА.**

# ПЯСНЯР ПРЫДНЯПРОЎЯ

## ВАСІЛЮ МАТЭВУШАВУ СПОЎНІЛАСЯ Б 80...

Так многія, хто жартам, хто ўсур'ёз, называлі Васіля Матэвушава. Можа, таму, што вершы ягоныя найчасцей з паэтаў Магілёўшчыны кладліся на музыку, як, скажам, "Прыдняпроўе" ("Прыдняпроўе маё, Прыдняпроўе, пералескі, крыніцы, лугі..."). А найбольш, бадай, таму, што паэт быў улюбёны ў сваё Прыдняпроўе, услаўляў яго, прысвяціў шмат светлых вершаў родным краявідам.

У аўтабіяграфічным нарысе "Коратка пра сябе" (зборнік "Вытокі песні", Мінск, 1973 г.) Васіль Іванавіч быццам апраўдваецца: "Мяне часта папракаюць, што я паэт адной тэмы: пішу пра хараство роднага Прыдняпроўя. Можа, гэта і так, але не магу "здрадзіць" ёй, бо маё сэрца навекі звязана з роднай бацькоўскай зямлёй, з яе казачнай пекнатой, а гэта — тэма шматгранная і невычарпальная".

Нарадзіўся В. Матэвушаў 6 сакавіка 1915 года ў вёсцы Княжыцы Магілёўскага раёна, у дзяцінстве спазнаў цяжкую сялянскую працу. Скончыўшы ў роднай вёсцы школу сельскай моладзі, вучыўся нейкі час у Гомельскім чыгуначным тэхнікуме. А потым, пасля заканчэння ў 1937 годзе літаратурна-лінгвістычнага факультэта Магілёўскага педінстытута, настаўнічаў у Обальскай сярэдняй школе на Віцебшчыне. У час вайны быў у чыгуначным палку. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў родныя мясціны, працаваў у абласной газеце "За Радзіму", перайменаванай затым у "Магілёўскую праўду." Апошнія тры гады свайго жыцця (памёр у сакавіку 1974 года) узначальваў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў.

Пісаць вершы Васіль Матэвушаў пачаў яшчэ школьнікам. Яго "Ліст да таварыша" быў змешчаны ў 1930 годзе ў газеце "Піянер Беларусі", а затым усё часцей малады аўтар пачаў друкавацца (пад псеўданімам Васіль Нёман) і ў іншых выданнях.

Апяванне хараства родных прыдняпроўскіх краявідаў сапраўды прайшло праз усю яго творчасць.

**Мой край,**
**прапісан я навекі**
**Да тых палян, дзе верасы**
**На золаку ўздымаюць вейкі**
**У спелых кропельках расы,**
**Да безыменных тых**
**рачулак,**
**Што загубіліся ў бары,**
**Да тых лугоў, дзе веснім**
**гулам**
**Звіняць крыніцы і вятры.**
**І мне з табой**
**не давядзецца**
**Жыць у разлуцы і журбе:**
**Не штампам пашпартным,**
**а сэрцам**
**Навек прапісан да цябе.**

*("Мой край...")*

За пейзажамі ў вершах В.Матэвушава прасвечваецца душа нашага сучасніка — руплівага гаспадара сваёй зямлі. Прырода як бы зліваецца з чалавекам. А лёс чалавека, народа неабыякавы паэту. Бо ён і сам часцінка яго. І нездарма ў адным з вершаў В.Матэвушаў сцвярджае:

**Калі ў бары кагось шукаю,**
**Іду заўсёды напрасцяк,**
**Любая сцежка ў родным**
**краі**
**Мяне выводзіць**
**на бальшак.**

*("Калі ў бары кагось шукаю...")*

Чытаеш вершы В. Матэвушава — і быццам разам з ім ідзеш па родным краі і бачыш, як выводзіць буслянят на першы ўзлёт бусліха, як пчала спяшаецца да першых лугавых кветак, чуеш, як сок бруіцца пад карою і зярнятка дыхае ў раллі, як світанне зазвінела на гуслях прамянёў, разам з паэтам удыхнеш рамонкавы настой.



Я пазнаёміўся з Васілём Іванавічам напрадвесні 1957 года ў Чэрыкаве, дзе працаваў тады рэдактарам раённай газеты. В.Матэвушаў, які быў тады загадчыкам аддзела культуры "Магілёўскай праўды", кіраўніком літаб'яднання "Прыдняпроўе", завітаў да нас, дапамог стварыць літаб'яднанне, а потым не раз з пачаткоўцамі выступаў на вечарах, сустрэчах з чытачамі, дапамагаў маладым аўтарам друкавацца. Яго намаганнямі ў той час у Магілёве быў выдадзены калектыўны зборнік "Дняпро".

Пазней, шмат год працуючы побач з Васілём Іванавічам у "Магілёўскай праўдзе", бываючы разам з ім у камандзіроўках, я пераканаўся, што гэткую ж дапамогу пачаткоўцам, маладым аўтарам ён аказваў і ў іншых раёнах. Яго любімым паэтам быў амаль што наш зямляк — смаленец Міхаіл Ісакоўскі. Васіль Іванавіч напамінаў моладзі словы Ісакоўскага, што самадзейнай літаратуры няма і не можа быць, а таму маладым літаратарам трэба вучыцца і плённа працаваць, працаваць...

Многія, чые галасы потым загучалі ў літаратуры, дамагліся гэтага пры падтрымцы добрага і чулага паэта В.Матэвушава. Паэтычны ж голас яго самога не слабее, бо гэта голас шчырага, шчодрага сэрца, голас з гушчыні жыцця. Адно шкада: яго вершаваныя зборнікі даўно марна чакаюць перавыдання.

**Іван АНОШКІН**

праваўога ўсенавуча, пачынаючы з пачатковых класаў агульнаадукацыйнай школы.

Словам, праблем вялікае мноства. Ясна, што ўсіх іх у асобна ўзятым артыкуле немагчыма абазначыць нават тэзісна. І ўсё ж адзін з іх трэба вылучыць асобна. Гаворка ідзе пра крымінальнае пакаранне, як зброю сацыяльнай справядлівасці.

Праблема гэтая мае два галоўныя аспекты. Першы звязаны з навуковай і этычнай абгрунтаванасцю ўстаноўленых у законе санкцый. Нярэдка іх памеры такія, што не ўкладваюцца ў рамкі здаровага сэнсу. Чым, напрыклад, растлумачыць, што выкраданне дзіцяці караецца менш строга, чым крадзеж каляскі, у якой спіць гэтае дзіця? Чаму, скажам, за знарочыстае забойства чалавека прадугледжаны меншы тэрмін, чым за некаторыя віды крадзяжу?

Сучасная айчынная прававая дактрына зыходзіць з даўно ўстаноўленага і непарушнага пастулата, згодна якому максімальна дапушчальны тэрмін пазбаўлення волі не можа перавышаць 15 гадоў. Пры гэтым прэзюміруецца, што такая працягласць ізаляцыі *дастатковая для дасягнення галоўнай мэты* — выпраўлення і перавыхавання асуджанага.

Другая мэта пакарання — забеспячэнне спецыяльнага папярэджання (здзяйснення асуджаным у будучым новых злачынстваў) і агульнага папярэджання (утрыманне ад крымінальных правапарушэнняў іншых грамадзян). Тым не менш, сярод агульнай колькасці раней судзімых асоб ёсць устойлівая група закаранелых рэцыдывістаў, якія лічаць турму сваім родным домам. Адбыўшы тэрмін "ад званка да званка", яны зноў і зноў парушаюць закон, здзяйсняюць яшчэ больш дзёрзкія проціпраўныя дзеянні, абвяргаючы тым самым гуманныя ідэі вучоных-крыміналагаў. Уся бязглуздзіца сітуацыі заключаецца ў тым, што пры гэтым не дасягаецца не толькі прыватная (спецыяльная), а і агульная прэвенцыя. Справа ў тым, што; знаходзячыся на свабодзе, дарослыя злачынцы-прафесіяналы актыўна вярбуюць у свае шэрагі новае папаўненне, асабліва з ліку моладзі, заражаючы яе духам блатной рамантыкі. Летась, напрыклад, непаўналетнімі і пры іх удзеле здзейснена 10 тысяч крымінальных правапарушэнняў (у 1993 г. — 9.5 тыс.). Спытаем, хто выйграе ад такога нічым не апраўданага лібералізму? Чаму прыхільнікі захавання ў самым шырокім разуменні правоў чалавека і абстрактнага гуманізму, што так любяць спа*сылацца на перадавы пенітэнцыярны вопыт* замежных краін, забываюць, што там існуе надзвычай гнуткая сістэма прызначэння і выканання пакаранняў, якая ўключае ў якасці аднаго з элементаў і пажыццёвае зняволенне? Ці ведаюць яны, што ў тых жа ЗША, згодна новаму закону, пажыццёвая няволя з'яўляецца абавязковай для людзей, якія здзейснілі тры сур'ёзныя крымінальныя правапарушэнні? А ў нас "дзякуючы" славутаму прынцыпу паглынання пры любой колькасці ўчыненых злачынстваў (за выключэннем "падрасстрэльных артыкулаў") суд не мае права выйсці за межы найбольш строгай санкцыі.

Часам справа даходзіць да абсурду. На маёй памяці выпадак, калі затрыманы ў Мінску "ўсесаюзны" злодзей-гастралёр, які здзейсніў звыш 100 кватэрных крадзяжоў, атрымаў усяго 7 гадоў знаходжання ў казённым доме. Менавіта такі максімальны тэрмін прадугледжвала норма КК за крадзеж з пранікненнем у жыллё без уліку іх колькасці.

Магчыма, і нам ужо трэба, улічваючы дзікунскі разгул крымінальшчыны, увесці пажыццёвае зняволенне або перайсці да прынцыпу поўнага складання асобных пакаранняў, не абмежаваных верхняй мяжой?

Апасенні, што папраўча-працоўныя ўстановы будуць перапоўненыя, лічу беспадстаўнымі. Бо такая жорсткая мера ацверажальна падзейнічае на прафесійных крымінальнікаў і, як вынік, пацягне за сабою агульнае аздараўленне крыміагеннай абстаноўкі ў рэспубліцы.

Вядома, усе гэтыя меры павінны падмацоўвацца безумоўнай рэалізацыяй прынцыпу абавязковасці пакарання, сфармуляванага яшчэ выдатным італьянскім асветнікам і юрыстам XVIII стагоддзя Чэзарэ Бекарыя — аўтарам вядомай кнігі "Аб злачынствах і пакараннях".

Забеспячэнне гэтага прынцыпу мне бачыцца ў стварэнні дакладна дзейнага механізма крымінальнага правасуддзя на ўсіх стадыях, пачынаючы з моманту затрымкі і выкрыцця зламысніка і заканчваючы вынясеннем справядлівага прысуду і выкананнем пакарання. Важна дамагчыся, каб грамадзянін, які пераступіў закон, у поўным аб'ёме перажыў усе праваабмежаванні, звязаныя з фактам яго асуджэння. Зусім не дапушчальна, каб "аўтарытэты" і "лідэры" крымінальнага асяроддзя, будучы ў зонах, паразітавалі за кошт недахопаў нашага заканадаўства і недасканаласці механізма яго рэалізацыі. Нельга дазваляць ім выкарыстоўваць сваё асаблівае становішча ў іерархіі злачынных суполак, якое дае ім практычна неабмежаваны ўплыў на асноўную, але неарганізаваную і не спаяную зладзейскай ідэяй частку асуджаных.

Імперыя страху, створаная ў папраўча-працоўных установах зводзіць на нуль усе намаганні па дасягненні мэты пакарання і прыводзіць да пашыранага аднаўлення крымінальных законапарушэнняў. Справа даходзіць да таго, што ў некаторых месцах пазбаўлення волі заправілы крымінальнага свету ствараюць ценявыя адміністрацыі, якія фактычна падмяняюць сабой дзейнасць кіраўніцтва калоній.

Супраць падобных з'яў ёсць дастаткова эфектыўныя сродкі як прававога, так і арганізацыйнага характару, якія можна выкарыстаць у рамках новай крымінальна-выканаўчай палітыкі. Трэба, відаць, звярнуцца і да станоўчага вопыту нашай гісторыі. Па сцвярджэнні буйнога аўтарытэту ў галіне барацьбы з прафесійнай і арганізаванай злачыннасцю А.Гурава, у выніку рашучых мер, распачатых у 50—60-ыя гады ўладамі, групіроўкі злодзеяў-рэцыдывістаў у месцах пазбаўлен*ня волі практычна спынілі сваю актыўную* дзейнасць.

У апошні час многія спецыялісты звязваюць свае спадзяванні на кардынальныя змены сітуацыі з Указам Прэзідэнта N 274 (міжволі напрошваецца аналогія з вядомым загадам часоў Вялікай Айчыннай вайны N 227 "Ні кроку назад!"). Указ прадугледжвае шырокі спектр мер па барацьбе са злачыннасцю, у тым ліку з яе арганізаванымі формамі. Для падрыхтоўкі прадугледжаных у ім праектаў заканадаўчых актаў створаны часовы творчы калектыў у складзе прадстаўнікоў Кабінета Міністраў, МУС, Мінюста, Пракуратуры і некаторых іншых ведамстваў.

Было б някепска, калі б да дзейнасці гэтага калектыву праявілі цікавасць і адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета, якія таксама працуюць над аналагічнымі праектамі.

Улічваючы асаблівую значнасць закранутых у артыкуле праблем крымінальнай палітыкі, мае сэнс, як мне здаецца, падумаць пра стварэнне ў структуры Савета Бяспекі пастаянна дзейнага органа па выпрацоўцы стратэгічных напрамкаў у галіне барацьбы са злачыннасцю і іх належным прававым забеспячэнні. Падыход такі, на мой погляд, будзе стасавацца і з прававым статусам Савета Бяспекі, а таксама з характарам і узроўнем вырашаемых ім задач. А шырокія магчымасці, прадастаўленыя яму ўказам Прэзідэнта, *з'яўляюцца добрай зарукай дастаткова эфек*тыўнай дзейнасці ў гэтай сферы.

Праўда, і тут ёсць адно юрыдычнае "але".

Артыкул 26 Палажэння аб Савеце Бяспекі, які дазваляе без нейкіх абмежаванняў атрымаць інфармацыю ад любых юрыдычных асоб, незалежна ад іх форм уласнасці, не падмацаваны адпаведнымі санкцыямі крымінальна-прававога характару на выпадак невыканання падобных патрабаванняў. Справа ў тым, што арт. 171 "прым" КК, які прадугледжвае адказнасць за гэта, утрымлівае ўказанне на строга пэўнае кола дзяржаўных органаў, якія маюць права на атрыманне неабходных звестак. Да кантрольных органаў, пра якія нагадвае дадзеная форма, Савет Бяспекі не адносіцца. У інтарэсах захавання законнасці гэты прабел неабходна будзе запоўніць.

Зусім відавочна, што процідзеянне крыміналу — не прыватная праблема асобных дзяржаўных органаў. Прысутнасць на нядаўняй калегіі МУС Прэзідэнта рэспублікі А.Лукашэнкі пацвярджае гэтую думку. Нарастаючы вал злачыннасці вымушае разглядаць барацьбу з ёй як прыярытэтную агульнанацыянальную задачу, ад вырашэння якой залежаць поспех эканамічных рэформ, стабілізацыя сацыяльна-палітычнай абстаноўкі і, па вялікім рахунку, — бяспека дзяржавы.

Па маім перакананні, для сур'ёзных зменаў у гэтай галіне патрэбны ўсяго дзве рэчы: добротнае заканадаўства і цвёрдая палітычная воля.

Ну, а пакуль... А пакуль лічбы крымінальнай статыстыкі нагадваюць зводкі з тэатра ваенных дзеянняў. За мінулы год здзейснена 952 забойствы, 1784 цяжкія цялесныя пашкоджанні, 672 згвалтаванні.

У цяперашні час у месцах пазбаўлення волі знаходзяцца больш за 50 тысяч асуджаных, а ўсяго за гады, што прайшлі пасля ўвядзення ў дзеянне цяперашняга Крымінальнага кодэкса, на Беларусі праз органы крымінальнай юстыцыі прайшло больш за 1 мільён (!) чалавек.

●

Напісаў гэтыя нататкі і задумаўся. Можа, дарэмна я згушчаю фарбы і нагнятаю страсці? Можа, не так ужо ўсё і кепска? Бо ў часы Каіна злачынцам быў кожны другі, а цяпер усяго толькі кожны дзесяты.

**С.ДАНІЛЮК,**

**начальнік кафедры акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь, кандыдат юрыдычных навук**

# Мікола КОРЗУН



22 лютага пасля цяжкай хваробы памёр член Саюза беларускіх пісьменнікаў — Мікола Корзун.

Мікалай Паўлавіч Корзун нарадзіўся 1 мая 1934 года ў вёсцы Заўшыцы Салігорскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Бацькі памерлі рана, і Мікола Корзун выхоўваўся ў Слуцкім дзіцячым доме. Скончыўшы ў 1956 годзе Смілавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум, працаваў на розных пасадах у саўгасах на Міншчыне, а таксама ў Інстытуце эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі ў Мінску. Вучыўся завочна ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага.

Некалькі гадоў узначальваў філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы, быў навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа, дырэктарам "Кнігарні пісьменніка". У наступныя гады працаваў у якасці агранома Літаратурнага музея Янкі Купалы і Аб'яднанні літаратурных музеяў БССР.

Літаратурную дзейнасць Мікола Корзун пачаў у 1958 годзе, надрукаваўшы ў часопісе "Бярозка" першае апавяданне. Менавіта дзецям ён і прысвяціў сваю далейшую творчасць. Ён — аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцяў "Жывы куток" (1962), "Віця Сітніца" (1964), "Тры сонцы" (1971), "Чырвоныя зоркі на танках" (1974), "Навальнічная паласа"(1979), "Святло чароўнай зоркі" (1989).

У жыцці Мікола Корзун быў такім жа сціплым, сумленным і зычлівым, як і героі яго кніг.

Светлая памяць аб цікавым пісьменніку, чалавеку чулай душы і добрым сябру застанецца з намі назаўсёды.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# СУСТРЭЛІСЯ ЛІЦЭІСТЫ

Як вядома, Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі рыхтуецца адзначыць сваё 60-годдзе. Рыхтуецца — гэта значыць ужо цяпер ладзіць перад'юбілейныя канцэрты, імпрэзы. 4 лютага, напрыклад, адбылася вельмі кранальная сустрэча колішніх ліцэістаў розных пакаленняў — а сярод іх, між іншым, ёсць нямала людзей, вядомых не толькі на музычнай ніве, а і ў іншых сферах культуры, мастацтва. У вялікай зале ліцэя ў той вечар можна было ўбачыць кампазітараў Д. Смольскага, С. Бельцюкова, піяністаў І. Алоўнікава, Ц. Сергяеню, флейтыста В. Грыгор'ева, рэжысёра-мультыплікатара І. Воўчака... Вёў сустрэчу таксама колішні выпускнік ліцэя, а цяпер намеснік яго дырэктара — Аляксандр Мільто. Напачатку даў ён слова старэйшаму педагогу, адной з першых выхаванцаў "школы для таленавітых дзяцей", аддаўшы падзей 60-гадовай даўнасці — Лідзіі Бяссмертнай, якая выступіла з хвалюючымі ўспамінамі. Пра слынных выпускнікоў ліцэя, на якіх сёння трымаецца не толькі акадэмічнае, але і эстраднае музычнае мастацтва Беларусі, гаварыў, з[illegible]ў жа выхаванец гэтай унікальнай установы, піяніст, мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юры Гільдзюк.

Прыгадваліся імёны І. Лучанка, С. Картэса, К. Шарава, Г. Каржанеўскай, І. Шумілінай, І. Паліводы, В. Раінчыка, Я. Паплаўскай, В. Капыцькі, Л. Рыдлеўскай — многія і многія імёны, з якіх складаецца "даўняя" і "найноўшая" гісторыя і колішняй школы-адзінаццацігодкі пры кансерваторыі (цяперашняга ліцэя), і нашай культуры, мастацтва, музычнай педагогікі. Прыгадвалася і незабыўнае імя першага і доўгі час незаменнага дырэктара — І. Р. Германа, чый партрэт усталявалі нядаўна ў гасцёўні ліцэя.

Выступалі на вечары і такія знаныя майстры, як Ігар Алоўнікаў (іграў свае дасціпныя, бліскучыя фартэпіянныя транскрыпцыі), Цімур Сергяеня, сусветна вядомы рэжысёр анімацыйнага кіно Ігар Воўчак, а таксама зусім юныя *таленты, якія стануць выпуск*нікамі ліцэя ўжо ў новым стагоддзі... Ну, а потым стракатая аўдыторыя вечарыны размежавалася па купках, па класах: вучням, педагогам, аднакашнікам, калегам было што ўспомніць, пра што паўздыхаць, над чым задумацца.

**С. Б.**

# НЕКАРАНАВАНЫЯ КАРАЛІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

У гісторыі Беларусі было шмат высакародных шляхетных родаў, але цяжка назваць больш славуты, больш вядомы беларускі род, чым род Радзівілаў. *Яны здолелі пакі*нуць свой след у самых розных галінах чалавечай дзейнасці — ад грамадска-палітычнага жыцця да культуры і асветніцтва. Прадстаўнікі гэтага роду неаднойчы бралі ўдзел у ваенных дзеяннях, якія вяло са сваімі ворагамі Вялікае княства Літоўскае, а потым Рэч Паспалітая і Расійская імперыя. На працягу доўгага часу яны карпатліва збіралі і захоўвалі калекцыі кніг, дакументаў, карцін, зброі, розных рэдкіх і цікавых каштоўнасцей, якія маглі б скласці *сапраўдную экспазіцыю* музея. На ўласныя грошы будавалі Радзівілы друкарні ў Брэсце, Нясвіжы і іншых беларускіх гарадах. Яны не толькі ўплывалі на палітыку, эканоміку і культуру сваёй дзяржавы, але нярэдка і рабілі іх у адпаведнасці з уласнымі патрэбамі, імкненнямі, густамі...

Гісторыя захавала для нашчадкаў многія імёны прадстаўнікоў гэтага славутага роду. Пералічым толькі некаторыя з іх. Барбара Радзівіл — каралева Польшчы і вялікая княгіня *зёўна літоўская*, "трыумфальная сваёй прыгажосцю і каханнем". Сапраўды, каханне, якое выклікала яна ў сэрцы польскага караля Жыгімонта II Аўгуста, называлі "каханнем стагоддзя". Мікалай Чорны — мецэнат друкарскай справы ў Вялікім княстве Літоўскім, буйнейшы прыхільнік Рэфармацыі ў сваёй дзяржаве. Мікалай Крыштоф Сіротка, сын Мікалая Чорнага — заўзяты каталік, які ўзначаліў барацьбу з кальвінізмам і па загадзе якога на вуліцах бе*ларускіх гарадоў* спальваліся кнігі, выдадзеныя ў кальвініскіх друкарнях. Разам з тым, Мікалай Крыштоф Сіротка прыклаў шмат намаганняў дзеля таго, каб рэзідэнцыя нясвіжскіх Радзівілаў — горад Нясвіж — па архітэктурнай забудове стаў упоравень з еўрапейскімі гарадамі таго часу. Ён быў знакаміты таксама як аўтар кнігі, у якой падрабязна апісаў сваё падарожжа ў Іерусалім, Сірыю, Егіпет і іншыя "экзатычныя" гарады і краіны Францішка Уршуля Радзівіл і яе муж Міхал Казімір Рыбанька (таксама прадстаўнікі нясвіжскай лініі роду) вядомыя сёння як стваральнікі першага ў гісторыі славян свецкага тэатра. Яшчэ адна вельмі каларытная асоба з роду Радзівілаў — сын Францішкі і Міхала Казіміра Рыбанькі Караль Станіслаў II Пане Каханку, дзівосы і незвычайныя паводзіны якога стварылі шмат легенд, якія да сённяшняга часу расказваюць у Нясвіжы...

Безумоўна, "у двух словах" расказаць аб прадстаўніках такога вялікага роду, як Радзівілы, немагчыма. Яны заслугоўваюць больш пільнай увагі да сябе, і нават кнігі было б недастаткова, каб паказаць іх складаную і цікавую гісторыю. На жаль, у нашай краіне пакуль што няма ніводнай *такой кнігі*, і можна толькі спадзявацца на тое, што калі-небудзь яна будзе створана. У некаторай ступені запоўніць гэты прабел заклікаты бібліяграфічны спіс "Некаранаваныя каралі Вялікага княства Літоўскага", надрукаваны ў штомесячным бібліяграфічным бюлетэні "Новыя кнігі Беларусі" (1995, N 1), што выдае Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Гэта — своеасаблівы даведнік, які пазнаёміць чытача з асобнымі выданнямі, артыкуламі з кніг, газет і часопісаў, прысвечанымі Радзівілам.

З выдання "Новыя кнігі Беларусі" можна таксама атрымаць інфармацыю пра самыя апошнія публікацыі ў газетах і часопісах, а таксама кнігі, прысвечаныя роду Радзівілаў. Азнаёміцца з бюлетэнем "Новыя кнігі Беларусі" можна ў кожнай масавай бібліятэцы. Выданне можна таксама набыць у кіёску Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

**К.ШЫШКОВА,**

**бібліёграф навукова-бібліяграфічнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

**Літаратурна-мастацкі фонд "Нёман" выказвае спачуванне члену Рады фонду Ерахаўцу Яўгену Уладзіміравічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю бацькі.**

**Саюз пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Аркадзю Кандрусевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

